№ 1 (210) 3 студзеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# ПАШТАРКІ-ДАНОСЧЫЦЫ

## У Мядзельскім раёне паштальёнак змусілі падаць у райвыканкам зьвесткі пра тое, якія газэты выпісвае вясковая інтэлігенцыя

*З адной зь вёсак Мядзельскага раёну нам затэлефанавала паштарка, чые дзеці ў Менску чытаюць "НН" ды ёй іншы раз давозяць. Яна паведаміла, што з райвыканкаму загадалі падаць зьвесткі, якія газэты і часопісы выпісваюць дырэктар саўгасу, старшыня сельсавету ды дырэктар школы. Мы абзванілі сіх-тых знаёмых на Мядзельшчыне, знайшлі тэлефоны іншых паштарак. Высьвятляецца, што не адна яна атрымала такое распараджэньне. "Запатрабавалі з райвыканкаму", — кажуць.*

*Паспрабавалі атрымаць камэнтар наконт "сьпісаў" у Мядзельскім райвыканкаме. У адказ намесьнік старшыні райвыканкаму параіў нам пацікавіцца лепш, ці ёсьць жыцьцё на Марсе.*

*Відаць, вэртыкаль загадзя рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў. Шукае "нядобранадзейных", каб тыя, крый Божа, ня трапілі ў выбарчыя камісіі, ад якіх будуць чакаць новых зьдзяйсьненьняў у справе падліку нашых галасоў. А мо і КДБ вывучае попыт на "апазыцыйную літаратуру". Тады дзякуй Богу, што гэта закранае толькі тутэйшую "намэнклятуру", а ня ўсіх нас. "Хай багатыя плачуць!"*

*Цікава было б даведацца ад чытачоў, ці гэта мядзельцы, зьмяніўшы летась раённага галаву, ірвуцца папярод рэспублікі ў пекла, ці прымус паштарак даказваць на сваіх кліентаў — кампанія нацыянальнага маштабу.*

*Асабліва раім панепакоіцца аматарам расейскае прэсы. У сьвятле новага павароту дзяржаўнае палітыкі, агучанага Лукашэнкам — што ні Захад, ні Ўсход нам не дапамогуць — ім, мабыць, прыйдзецца туга.*

**Барыс Тумар**

# Па-над палітыкай




**З Новым годам, дзецюкі! Мірон.**

2000 год быў нібыта лагодны. Раньняя вясна, ня душнае лета, доўгая цёплая восень і сірацінскі пачатак зімы. На Дзень Волі ў Менску ўжо не было сьнегу, а на першыя Каляды, як на заказ, упершыню добра ўзялося на мароз. Лёгка было пераджыць гэты год бяздомным, старым і нямоглым, адзінокім, сіроткам, падарожным і тым, каму няма за што купіць пад дастаткам дровяў ды газу.

Добра ўрадзіла бульба, заводы працавалі, пошта вазіла лісты, а дактары ратавалі свой народ ад раптовае бяды. І яшчэ сёлета ў барах было аж сіне ад бункоў. Во гэтак было.

Добрыя людзі болей рабілі, ліхія меней пілі, таму пабагацеў край. Паразумнелі дзяўчаты, падужэлі хлопцы. Падрасьлі дзеці. Пайшлі ў сасну тыя, каму прыйшла пара на той сьвет. Ані вялікае аварыі, ані віхра, ані іншага вялікага гора на Беларусь сёлета ня вырвалася. Быў ціхім юбілейны год.

Хіба што надта ціснула на нэрвы стомленае дашчэнту ХХ стагодзьдзе – усёй сваёй масай. Мала пісаліся вершы, не наведвалі выратавальныя ідэі. Сфэра духу зьнемаглася ў чаканьні сьвежага веку.

Усе мы нявольнікі лічбаў. «Наша Ніва» мо найменш. Але й «Нашай Ніве» гэты міленіюм быў страшны. Першая «Наша Ніва» не перабыла дзявятага году жыцьця, зачынілася ў 1915-м. Ці напісана і нам аказацца не шчасьлівейшымі за папярэднікаў? — гадалі мы перад дзявятым годам выданьня газэты. Перапрэслася.

Сто гадоў новыя, словы старыя. Пісаныя-сьпісаныя. Янка Купала быў зьвярнуўся да «Нашай Нівы» во з гэткімі:

> Ночка цёмная на сьвеце
> Вечна не начуе;
> Зерне, кінутае ў ніву,
> Ўсходзіць ды красуе.

Цяпер «НН» зьвяртаецца зь імі да Вас.

У грамадзкіх справах 2000 год быў, вялікім рахункам, годам пустэчы і брыдкаслоўя. Зараз краіна ў другі раз будзе выбіраць прэзыдэнта. Хоць гэта і здарыцца пасьля дзясятай гадавіны абвяшчэньня нацыянальнай незалежнасьці, відаць, што як і ўсе апошнія гады, падзеі будуць разгортвацца экстрэмальна, і значыць, нам ізноў прыйдзецца бараніць дэмакратыю, права выбару і прыстойных кандыдатаў. А якраз да такое абароны нашы палітыкі і грамадзтва яшчэ па-сапраўднаму не гатовыя, не навучаныя салідарнасьці і ўменьню бачыць сваіх і гарою стаяць за сваіх. Хоць бы і ўсе астатнія газэты сталі шукаць пазытываў у Ярмошыных і Сіваковых, «НН» будзе паўтараць: слухай сваё, чытай сваё, любі сваё, кахай сваё, думай па-беларуску, галасуй за сваіх.

А так «НН» будзе імкнуцца застацца па-над палітыкай. Не па-за палітыкай — па-над — каб далей бачыць.

**Андрэй Дынько**




# Дачакаць!

**Чаканьне каштоўнейшае за чаканку
старых мэдалёў, старажытных манэт.
Чакаць ганарару, навінаў, каханку,
што ўночы наведае праз Інтэрнэт;**

**чакаць, што знаёмыя вернуць пазыкі,
і клясьціся больш не даваць напавер;
чакаць, што паўстане народ безьязыкі,
калі пасьля дожджыку будзе чацьвер;
чакаць, і пад томам "Сымона-музыкі"
у пыльнай шуфлядзе трымаць рэвальвэр.**

**Чакаць, калі здарыцца Раз Назаўсёды,
з надзеяю гледзячы за даляглял.
І вось дачакацца, калі не свабоды,
дык першых у новай эпосе Каляд.**

**У міры ды згодзе, ізь сьмехам дый годзе,
на стол пачастункі паставіць сваё
і ў першага-лепшага тысячагодзьдзя
спытаць: "Трэцім будзеш?"
А раптам ня п'е?!**

**Усе атрымалі сьвяточныя грошы,
засмажылі тлустую смачную гусь
і жджэм, што апоўначы самы харошы
з экрану прамовіць "Жыве Беларусь!"**

**А мы ап'янеем, губляючы розум.
Закружыцца голаў ад мрояў і кроз.
Міколка, што некалі быў Паравозам,
а сёньня ўвіхаецца, як Дзед Мароз,**

**ізноў распачне навагоднія жарты,
сьнягуркі апрануць свае кімано,
і сядзе дасьведчаны шулер за карты –
гуляць са стагодзьдзямі ў "дваццаць адно"...**

**А стрэлка праходзіць апошні адцінак.
(Два тысячагодзьдзі – на ейным баку!)
Зязюля падкінула яйка ў гадзіньнік
і хутка ўсясьветнае грымне "ку-ку".**

**30 сьнежня 2000**

# Дзяцінства нацыі

Сяргей Паўлоўскі

Апошнім часам усё часьцей пераконваюся, што паводзіны і развагі беларусаў нагадваюць учынкі і думкі дзіцяці. Ня тое каб у гэтым было нешта кепскае. Можа быць, нават наадварот. Бо гаворка ідзе не пра інфантылізм ці затармажанасьць, а менавіта пра раньнюю стадыю разьвіцьця, павольнае, але няўхільнае станаўленьне нацыі.

Вы скажаце, што насамрэч наша нацыя — старая і пакутуе хутчэй на пэнсіянэрскі маразм. Але гэта няпраўда. Ня трэба блытаць сацыяльнае і нацыянальнае. Сучасная беларуская нацыя як такая сапраўды пачала фармавацца толькі ў ХХ ст. А стагодзьдзе ў такой справе — невялікі тэрмін. Зрэшты, ніхто ня скажа, колькі нацыі трэба часу, каб дасьпець. Беларусы яшчэ ня мелі ў поўнай меры сваёй дзяржавы са сваёй дзяржаўнай ідэалёгіяй. Яны як нацыя мелі толькі сваю інтэлігенцыю, якую не аднойчы за стагодзьдзе вынішчала або дэмаралізавала акупацыйная ўлада. Дзякуючы сваёй інтэлігенцыі, нават у савецкай рэспубліцы, што моцна нагадвала пакой крывых люстэркаў, беларусы прывучыліся называць сябе беларусамі, сваёй роднай мовай – беларускую, а сваімі найзьлікшымі прадстаўнікамі — Купалу і Коласа.

Гэта праўда, што гарадзкія беларусы гавораць не па-расейску, а на ніякай мове. Вонкава падобная да расейскай, ніякая мова выконвае чыста тэхнічныя камунікацыйныя функцыі, за ёй не стаіць ніякая культура, ніякая традыцыя, таму яе немагчыма адчуць і назваць роднай. Па-свойму беларусы толькі вучацца гаварыць — гэтак сама, як дзеці.

Гэтак сама, як дзеці, яны вучацца хадзіць, самастойна прымаць рашэньні, самі адказваць за сябе. Як дзеці, яны абсалютна залежаць ад свайго бацькі-кіраўніка, і так сама, як дзеці, могуць іншы раз "насваволіць" – напрыклад, з духу пярэчаньня зрабіць нешта зусім адваротнае ад таго, чаго чакае ад іх кіраўнік. Так было з Кебічам на прэзыдэнцкіх выбарах 1994 году. Верагодна, так будзе і з Лукашэнкам Беларусы яшчэ ня могуць асэнсавана галасаваць "за", затое з поўнай рашучасьцю здольныя галасаваць "супраць". Часткова і ў гэтым прычына таго, што нашы палітыкі ніяк ня могуць знайсьці Лукашэнку "годную замену".

Працяг на старонцы 4.

# Чуйнаваньне

**Яшчэ ў 1963—1964 г. Мікола Ермаловіч выдаваў падпольны рукапісны "Падсьнежнік", рэфлексію на тагачасныя падзеі. Выйшлі толькі чатыры нумары. Адхіленьне ад улады Мікіты Хрушчова і ўсталяваньне атмасфэры падазронасьці і выкрывальніцтва ў грамадзтве прымусіла гісторыка спыніць выданьне. Праз 11 гадоў зьяўляюцца "Гутаркі", у якіх зьмяшчаліся артыкулы і творы, што не маглі быць надрукаваныя ў дзяржаўных выданьнях.**

**Тут неабходна зрабіць невялікае адступленьне, каб сказаць пра асяродак, у якім разыходзіліся творы М.Ермаловіча.**

**Мастак Яўген Кулік быў гаспадаром майстэрні, якая разьмяшчалася пад самым дахам будынка на праспэкце Леніна (цяпер Скарыны), вокны якога глядзелі акурат на КГБ. Майстэрня Яўгена Куліка была прыстанкам апазыцыйна настроенай інтэлігенцыі. На "Паддашку" зьбіраліся Генадзь Сокалаў-Кубай, Лявон Баразна, Міхась Раманюк, Зьміцер Санько, Віктар Маркавец, Алесь Марачкін, Алесь Разанаў, Зянон Пазьняк, Міхась Чарняўскі і іншыя.**



**У майстэрні абмяркоўваліся падзеі ў СССР і сьвеце, нараджаліся праекты культурніцкіх акцыяў. Ува ўмовах брэжнеўскага застою, таталітарызму і дэнацыяналізацыі грамадзтва апазыцыйнасьць вымагала захадаў канспірацыі. Гаспадар вывешваў на акне ручнік: *усё нармальна, можна заходзіць*.**

**Таму ня дзіўна, што калі Ермаловіч прынёс менавіта сюды першую "Гутарку", дык быў упэўнены: яна не прападзе. Гутаркі рыхтаваліся ўласна аўтарам у "Леніцы" (цяпер — Нацыянальная бібліятэка), набіраліся на друкарцы ў Маладэчне, потым прывозіліся ў Менск, на Паддашак, і перадаваліся Куліку. Адсюль яны ўжо разыходзіліся сталіцаю.**

**Гутаркі былі пашыраным жанрам нелегальнае літаратуры ў XIX ст., таму нездарма гэтая назва была выбраная М.Ермаловічам для нелегальнага пэрыёдыка. У выданьня быў дэвіз "Аб усім, што баліць". "Гутаркі" друкаваліся на аркушах паперы фарматам А4 з аднаго боку, а колькасьць старонак вагалася ад адной да пяці. У кожнай "Гутарцы" зьмяшчаўся толькі адзін твор на злабадзённыя гістарычныя, сацыяльныя, моўныя тэмы.**

**Зь левага боку першага аркуша разьмяшчалася дата выхаду гутаркі і ейны парадкавы нумар (*першы нумар выйшаў 14 лістапада 1975 г. пад назвай "І вось запрэгліся ўсе трое"*). Для пэрыёдыка быў абраны эпіграф *"Толькі гутарка ходзіць такая"*. Падпісаныя гутаркі былі псэўданімам — Сымон-Беларус.**

**Усяго зафіксавана 45 гутарак, апошняя пазначаная 17 лістапада 1976 г. Пры канцы 1976 г. выданьне "Гутарак" прыпынілася. Але спадара Міколы ўжо, на жаль, няма, каб сказаць, чаму.**

**А.Г.**

# На Паддашку

## *Пра Міколу Ермаловіча, "Гутаркі" і 1970-я*

**З мастаком Яўгенам Кулікам гутараць гісторыкі Ларыса Андросік і Алег Гардзіенка**

**Яўген Кулік**: Мікола Ермаловіч прыходзіў да нас на "Паддашак" з розных нагодаў і прыносіў свае "Гутаркі". Першы раз гэта адбылося на пачатку лістапада 1975 г. Дарэчы, у мяне і не засталося той першай гутаркі. Вы ня думайце, што мы былі строга закансьпіраванай групай, якая зьбіралася на патаемныя сходкі і запускала памнажальны апарат. Усё рабілася нашмат больш элемэнтарна: давалі калегам пачытаць, і кожны ўжо па сваіх магчымасьцях памнажаў. Толькі калі справа тычылася найважнейшых матар'ялаў, мы пускалі ў ход тэхніку: сокавыціскалку, пераабсталяваную пад памнажальную машынку, якой мы нікому не паказвалі.

Памятаю, што першая гутарка — гэта быў аркуш паперы, складзены, нібы ў капэрту. Я мяркую, што ён ня сам іх набіраў, бо наўрад ці мог ён тое рабіць, а, напэўна, друкавала жонка.

**Ларыса Андросік:** Казалі, што жонка гэтага "дысыдэнцтва" пабойвалася і адгаворвала мужа. Яна працавала ў Пастаўскай пэдагагічнай вучэльні і была сьведкам разгрому ў 40-х гадах антысавецкай падпольнай групы моладзі.

**Я.К.:** Аднак хтосьці іншы ня мог яму надрукаваць, тым больш што на асобных гутарках ёсьць аўтарскія праўкі. Я ня ведаю, у якім аб'ёме ён друкаваў, але мне думаецца, што ў яго была двайная закладка, і хтосьці яшчэ пашыраў пэрыёдык, бо наша група магла надрукаваць няшмат, а складвалася такое ўражаньне, што "гутарак" ходзіць значна болей.

Гутаркі неяк самі сабою разыходзіліся з маёй майстэрні. Здаралася так, што ў іх быў нейкі важны матар'ял, у такім выпадку ён друкаваўся большай колькасьцю асобнікаў. Калі б мы гэтым займаліся яшчэ больш актыўна, дык наўрад каб ацалелі цягам 20 гадоў існаваньня Паддашку. Мы абсалютна давяралі адзін аднаму, аднак былі дастаткова замкнёным колам. Гэта ўжо нашыя спадкаемцы, "маладзёны", што прыйшлі пасьля нас, казыраюць тым, што іхная дзейнасьць была накіраваная і вонкі, а ў 70-х быў зусім іншы час.

**Алег Гардзіенка:** Чаму спадар Ермаловіч пачаў выдаваць "Гутаркі" менавіта ў 1975 г.? Самы застой, адсутнасьць спадзяваньняў на лепшае, амаль поўная дэнацыяналізацыя беларусаў...

**Я.К.:** Гэта цяпер так здаецца, што быў самы росквіт застою. А мы жылі ў той час і мелі сваё кола. У ім былі збольшага мастакі. У той час быў таксама асяродак у Акадэміі Навук. Ну, і Зянон Пазьняк, то гэта проста была *асоба*, якая была асобна. Мы ніколі не даведваліся ў яго пра ягоныя справы, а ён нас не лічыў такімі заўзятымі падпольшчыкамі.

У 60-х, калі толькі зараджаўся Паддашак, больш-менш сьведамых людзей было замала. І мы займаліся тым, што лічылі патрэбным — у асноўным культурніцкай работай, але абсалютна не цураліся праяваў грамадзкай працы. У грамадзкім пляне ўсё пачыналася з Купальля, з падпольных Купальляў, якія якраз прыпадалі на самыя чорныя гады: 1973, 1974, 1976 г. Падчас сьвяткаваньня Купальля ў Заслаўі ў ваколіцах хадзілі міліцыянты з аўчарамі і стаялі пажарныя машыны, было вусьцішна.

**А.Г.:** Ідэя "Гутарак" была цалкам ідэяй Міколы Іванавіча?

**Я.К.:** Так, цалкам гэта ягоны прадукт.

**Л.А.:** А якія гутаркі былі самыя папулярныя?

**Я.К.:** На злабадзённыя тэмы: Рагвалод і Рагнеда, пра мову, быў у Міколы Іванавіча і самвыдатаўскі зборнічак вершаў.

**А.Г.:** Напрыканцы 60-х Мікола Ермаловіч скончыў кнігу "Па сьлядох аднаго міту". Ці прыносіў ён свае дасьледаваньні на Паддашак?

**Я.К.:** Нас тады цікавіла ўсё, што б сьведчыла пра нашу самастойнасьць, самабытнасьць. Мы нават выпісвалі цытаты з Энгельса, Леніна, дзе нейкім чынам згадвалася пра Беларусь. Цяпер гэта гучыць, магчыма, вельмі сьмешна, а тады такі быў час. І вось зьявіліся ягоныя першыя публікацыі. Нейкімі прыхапкамі, фрагмэнтамі. Так, спадар Мікола падрыхтаваў кнігу пра старажытную гісторыю Беларусі, як ён яе называў — "100 старонак". У 1970 г. я папрасіў яе пачытаць. Я сам прачытаў, даў пачытаць блізкім сябрам. Барыс Мельнікаў зрабіў фатакопію, хтосьці яшчэ фатакопію, хтосьці перадрукоўваў на машынцы. Тады ўжо зьявіўся ксэракс, але мы карысталіся ім у крайнім выпадку, бо ксэраксы знаходзіліся ў дзяржаўных установах ці бібліятэцы Леніна і друкаваць штосьці было вельмі небясьпечна. На таго, хто памнажаў, адразу падала падазрэньне. Трэ было шукаць нейкія іншыя сродкі прапаганды. Тады і нарадзілася ідэя скласьці зборнічак з гістарычных твораў, асновай для якіх стала "Па сьлядох аднаго міту". Мы, праўда, скарысталі з "паслугаў" ксэраксаў, што зьявіліся ў дзяржаўных установах. Зьявілася кніжка без назову. Нават пэўную колькасьць экзэмпляраў нам адзін чалавек пераплёў стоўна. У зборнік увайшлі творы, надрукаваныя ў часопісах: артыкулы Ў.Пічэты "Чарговыя пытаньні беларускай гістарыяграфіі", надрукаваныя ў тагачасным «Полымі», Я.Юха, Г.Штыхава пра Вялікае Княства Літоўскае, пра Унію з Польшчай, Літоўскія Статуты. Іншымі словамі, усё тое, дзе гаварылася пра самастойнасьць ВКЛ. Мой калега нават падкрэсьліваў патрэбныя радкі, за што я вельмі яго ганіў: *«Калі ты разьлічваеш, што гэта дурні будуць чытаць, дык ты вельмі памыляешся»*. Цэнтральным у зборніку было "Па сьлядох аднаго міту". Мы нават дыскутавалі зь Міколам Ермаловічам у некаторых пытаньнях, удакладнялі, і гэта ўжо быў ня голы першапачатковы тэкст, а з пэўнай рэдактарскай праўкай.

**А.Г.:** У якім годзе выйшла тая кніжачка?

**Я.К.:** Дзесьці ў 1973 г.

**Л.А.:** А які быў наклад зборніка?

**Я.К.:** Пераплеценых кніжак дзесяць, а не пераплеценых значна болей. Захаваліся ягоныя іншыя працы — што ў ксэраксах, што так. Мы, нібы пчолкі, зьбіралі ўсе ягоныя публікацыі.

**А.Г.:** Вам ня страшна было працаваць у майстэрні насупраць КГБ, не было адчуваньня, што пільнае вока няспынна за Вамі сочыць?

**Я.К.:** Спачатку страшна, потым адаптаваўся, мяне адно займала: дзе гэтыя жучкі. Спэцыялістаў-тэхнолягаў у мяне не было знаёмых, таму цяжка было праверыць. Сытуацыя ўскладнялася тым, што памяшканьне майстэрні было падзеленае перагародкай, за якой была майстэрня іншага мастака, але ён быў для "іх", з дому з Бэльвэдэрам, абсалютна бездакорны. Ён выпіваў любіў — «бяскрыўдны» чалавек. А можа мы захаваліся таму, што былі нейкія іншыя прычыны, можа "ім" трэ было пасьвіць нейкі асяродак і за нешта атрымоўваць грошы? Калі надараліся нейкія асаблівыя выпадкі, дык мы не рызыкавалі майстэрняй, а скарыстоўвалі канспіратыўную, калі можна так сказаць, кватэру, якую вельмі бераглі.



МІХАСЬ РАМАНЮК

Чэрвень 1977 г. М.Раманюк, В.Маркавец, Я.Кулік і А.Марачкін.

навіны за тыдзень

## БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ НОВЫ ГОД

У навагоднюю ноч у менскім мікрараёне Паўднёвы Захад невядомыя вывесілі нацыянальныя сьцягі. Самы вялікі прымацавалі да дроту між дамамі на вул.Голубева. Маладафронтаўцы і па-іншаму павіншавалі менчукоў. Чатыры беларускамоўныя Сьвятыя Мікалаі раздавалі на праспэкце каляндарыкі, газэты ды аўдыёкасэты. Падарункі карысталіся вялікім попытам. Дзецюкі сьцягнулі на сувэніры таксама дзьве бел-чырвона-белыя шапкі і адну бараду.

## ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ СТРАЙКУЮЦЬ

Пазаўчора ў краіне пачаўся пяцідзённы страйк індывідуальных прадпрымальнікаў. Страйкам мяркуе далучыць да яго 100 тыс. чалавек. Прадпрымальнікі ўжо дамагліся таго, што Падатковы камітэт адклікаў праект дэкрэту аб адзіным падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў, які падвышаў дзейныя стаўкі падаткаў.

## ЖУК ЖУКА НЕ ДРУКУЙ

29 сьнежня газэта “Наша Свабода” выйшла зь белымі плямамі, без сатырычнага разьдзелу “Стынгер”. Друкарня “Мэджык” адмовілася яго друкаваць, бо Дзяржкамдрук пагражае іначай забраць ліцэнзію. Чыноўнікі кажуць, што друкарня парушыла закон і “Стынгер” мусіць быць зарэгістраваны як асобнае выданьне. Хоць Павал Жук, рэдактар “Нашай Свабоды” і гістарычны выдавец незалежнай прэсы, і мае сваю долю ў “Мэджыку”, але парушыць патрабаваньні Дзяржкамдруку не рашыўся. У “Нашай Свабодзе” лічаць, што забарона палітычна матываваная.

## БУНТ НА МААЗЕ

28 сьнежня каля 200 работнікаў Магілёўскага аўтазаводу перакрылі дарогу ля свайго прадпрыемства, прапускаючы толькі “хуткія”. Па заводзе прайшла чутка, што затрыманыя заробкі будуць выдаваць не 29, а 28 сьнежня. Не дачакаўшы грошай, людзі выйшлі на вуліцу. Як толькі выйшлі, дык адразу назаўтра ўсе заробкі аддалі.

## ПЕРШЫ МЯНЧУК ВЕКУ

У першыя гадзіны новага тысячагодзьдзя ў Менску нарадзілася 10 немаўлятаў — сямёра хлопчыкаў і тры дзяўчынкі. Першы — хлопчык — зьявіўся на сьвет у 2.15. Бацькі спадзяюцца, што ім, як і бацькам першага менскага немаўляці 2000 году, дадуць кватэру.

## ПІСКАРОЎ ПАХАВАЎ СЫНА

Генэрал-лейтэнант Уладзімер Піскароў, міністар унутраных справаў у апошнія гады БССРу, кіраўнік беларускай міліцыі ў часе разгону Дзядоў у 1988 годзе, тыдзень таму пахаваў другога сына. І — кпін долі — амаль у той самы дзень Васіль Шлындзікаў, лідэр “Выбару-2001”, назваў яго адным з магчымых незалежных кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі.

## ТЫ ЗА ЛУКУ ЦІ ЗА КАЗЛА?

Намер балятавацца ў прэзыдэнты прадэманстраваў Кебічаў міністар абароны Павал Казлоўскі. Ён родам з Пружаншчыны, генэрал у адстаўцы, сват Мечыслава Грыба. Адпаведнае інтэрвію “Народнай Волі” ён даў пасьля вяртаньня з кансультацыяў у Маскве. Ягоную кандыдатуру разглядае як найпершую камітэт “Выбар-2001” на чале зь Сярэдзічам, Грушавым і Шлындзікавым, што мае вылучыць кандыдатуру, альтэрнатыўную і Лукашэнку, і кандыдату ад дэмакратаў. Адчуваецца, што такое рашэньне — плён цяжкіх і доўгіх рэфлексіяў.

**Алесь Кудрыцкі**

## ДЫПЛЁМ РАМАНУ АФТАНАЗЫ

Беларускі Калегіюм надаў ступень доктара “ганорыс каўза” польскаму дасьледчыку Раману Афтаназы. Цырымонія ўручэньня адбылася ў Варшаве. Навукоўцу 86 гадоў, ён жыве ва Ўроцлаве. Ад імя Калегіюму з прамовамі на цырымоніі выступілі філёзафы Алесь Анціпенка і Валянцін Акудовіч.

Раман Афтаназы вядомы як дасьледчык гісторыі магнацкіх і шляхецкіх сядзібаў на былых усходніх землях Рэчы Паспалітай (Беларусь, Украіна, Літва, Латвія). Праца ўсяго жыцьця гэтага аўтарытэтнага гісторыка культуры выдадзеная ў 8 тамах. Не малое месца займаюць у ёй матэрыялы пра сядзібы беларускіх магнатаў і шляхты – дасьледаваньні архітэктуры маёнткаў, паркаў, мастацтва, генэалёгіі ўладальнікаў сядзібаў.

Раман Афтаназы — другі замежны інтэлектуал, уганараваны дыплёмам пачэснага доктара Калегіюму. Першым быў нядаўна памёрлы рэдактар парыскага часопіса “Культура” Ежы Гедройц.

**Алесь Козік**




Лукашэнка дабудоўвае савецкую спадчыну — палацы, масты, вакзал. Па Лукашэнку ці будзе што дабудоўваць?

# Вакзал і бюракратыя

Чаму ў Беларусі не перамагла дэмакратычная рэвалюцыя? Прыгон перамаглі, а савецчыну – не. Бо для перамогі рэвалюцыі трэба браць пошту, тэлефон, тэлеграф, масты і вакзалы. Тэлебачаньне Пазьняк з дапамогай міністра Бураўкіна здолеў заняць – наш этэрны час! – але да вакзалу дабрацца ня здолеў.

Не было *вакзалу.* Быў абшарпаны будаўнічы шкілет – па-савецку *“даўгабуд”.* Таму не ўзялі вакзалу – не было чаго браць. А раз не ўзялі, дык і прайгралі. Для ўсялякай рэвалюцыі мае быць *матэрыяльная база.* Няма базы – няма рэвалюцыі. Чытайце Маркса, Леніна, Глёбуса, Пазьняка.

*“Даўгабуд”* – не савецкая вынаходка. Гэта заробак кожнай бюракратыі ў Эўропе. Разумны ксёндз будуе касьцёл 20 гадоў, пры гэтым хапае на плябанію для сябе, дом для аканомкі і вілу для сваякоў, а дурны ксёндз будуе касьцёл за два гады і вылятае на місіянэрства да Афрыкі...

Як толькі ў Эўропе да ўлады даходзілі сацыялісты, дык адразу капалі тунэль пад Ля-Маншам, хоць ехаць паромам дагэтуль лягчэй, таньней і выгодней, майстравалі *Concorde*, хоць самі лёталі па-ранейшаму аэробусамі, ставілі мост цераз мора на 16 км паміж Даніяй і Швэцыяй. А ў Савецкім Саюзе без канца пускалі ракеты ў космас, траціна якіх да космасу не далятала... Бюракратыя пры такіх *даўгачасных* і *багатых* справах жыла спакойна і бязьбедна: ясна – зрабіце любы камітэт дзеля любых рэформаў, а тыя рэформы будуць ісьці да канца жыцьця і пачатку саліднай пэнсіі, бо так нікуды й ня дойдуць.

Так было з чыгуначным вакзалам у Менску. З Палацам Рэспублікі. Зь лініямі ЛЭП, паўдзясяткам мастоў, ня кажучы пра шматлікія “хазяйсьцьвеныя аб'екты і жылыя дама”.

Лукашэнку, які па сваёй мужыцкай непапраўнай гаспадарнасьці гэта *дабудаваў,* цяпер за гэтую дабудову частка апазыцыі зацята крытыкуе. Бо і ў апазыцыі месцамі кучкуецца былая і небылая савецкая бюракратыя.

Вой, дабудаваны вакзал – то кепска. Лепш ніякага. Бо калі раней сп.Віка з Эўропы выкідалі на “станцыю “Інстытут культуры”, дык яму адразу ўсё станавілася ясна. Калі ж цяпер заменнага яму спадара культурна сустрэнуць на *галоўным вакзале* Беларусі, дык ён яшчэ возьме ды пойдзе з “антынародным і таталітарным” гешэфтаў шукаць. А то канец!..

Перастаньце вы, таварышы і спадары. Сумна гэта і сьмешна. *“Даўгабуд”* браўся з таго, што за фундамэнт плацілі *трыццаць* адсоткаў кошту, таму яго залівалі “з нашым удавольсьцьвіем”, а потым будынак кідалі. Ні халеры не разумеючы ў савецкай тэхналёгіі, ня ведаючы свайго, а ня кніжнага народу, які верыць у *бацьку* і *халяву,* вы яшчэ пра нешта гаворыце... Вакзал дабудавалі – у вас Лукашэнка вінаваты, сьнег пайшоў – у вас Лукашэнка вінаваты, прымаразак забялеў – Лукашэнка вінаваты... Ды скідалі ўжо: Сакалоў быў, Малафееў, Дземянцей, Шушкевіч, Кебіч, Грыб. *Імя ім – легіён калхозны.* І што жа? “А нічаво...”.

А таго няшчаснага Лукашэнку вы ня скінеце такім халтурным ачарніцельствам, бо – каго паставіце?

**Алесь Чобат**

# Дзяцінства нацыі

Працяг са старонкі 1.

Палітыкі – таксама дзеці. Яны кажуць, што народ не падтрымае партыйнага кандыдата, наіўна не разумеючы, што гэтым самым скасоўваюць сэнс існаваньня сваіх партыяў.

Верагодна, у верасьні 2001-га беларусы яшчэ ня змогуць галасаваць “за” кагосьці. Нацыя проста не пасьпявае за тымі працэсамі, якія хацелі б бачыць нецярплівыя палітыкі. Для прадуманага выбару нацыя яшчэ замалая. А вось “супраць” яна прагаласаваць можа.

Беларусы ня ведаюць сваёй гісторыі. Яны яшчэ замалыя, каб чытаць гістарычныя кніжкі. Вось падрастуць і з задавальненьнем будуць даведвацца пра дзядоў сваіх з ВКЛ. Сёньня патрабаваць ад іх гэтага рана.

Стаўленьне беларусаў да прыватнае ўласнасьці (а якая ў дзіцяці ўласнасьць?), да прыняцьця рашэньняў (дзіця звычайна не вырашае) альбо, скажам, да сэксу (“*У нас секса нет!*”) з дакладнасьцю паўтарае стаўленьне дзяцей.

Тут варта нагадаць, што гаворка ідзе не пра насельніцтва, соцыюм або грамадзян Беларусі, а менавіта пра беларусаў як нацыю, маладосьць і росквіт якой адбудуцца ўжо ў XXI стагодзьдзі.

Беларуская мова ня можа запанаваць, пакуль яна нясе на сабе адбітак рэформы 1933 г. Кожная жывая мова знаходзіцца ў стане экспансіі. Але гэта — не пра «наркомаўку», у якой папросту выдаленыя тыя органы, які змушаюць прагнуць і дамагацца свайго прызнаньня і любові да сябе. Менавіта ў апошняе дзесяцігодзьдзе на поўны голас заявіў пра сябе клясычны варыянт беларускае мовы – галоўнае сьведчаньне таго, што нацыя падымаецца на ногі, бо гэта ў пэўнай ступені працэс стыхійны, прыродны, а ня нечая прыватная ці карпарацыйная ініцыятыва. Доказам таму – Інтэрнэт, самая вольная і адкрытая сёньня інтэлектуальная і інфармацыйная прастора. 90% беларускамоўных удзельнікаў гэтай прасторы карыстаюцца тарашкевіцай. У экспансіі клясычнага варыянту выявіўся здаровы патэнцыял для экспансіі беларускай мовы ў грамадзтве.



Беларусы яшчэ не прыйшлі ў горад. Гэта відаць з адсутнасьці людзкіх чалавечых тыпажоў. Мы яшчэ ня можам ідэнтыфікаваць менчука, гарадзенца або гомельца гэтак, як ідэнтыфікуем варшавяка, масквіча або віленчука. Беларусы маюць вельмі характэрныя тыпажы ў вёсцы, але ў сучасным сьвеце менавіта горад ёсьць партрэтам нацыі. Верагодна, самым радыкальным спосабам вырашэньня гэтае праблемы стаў бы перанос сталіцы ў меншы, сувымерны беларусам горад. Наколькі гэта важна, сьведчаць прыклады іншых нацыяў па ўсім сьвеце – ад Вашынгтону да Астаны.

XXI стагодзьдзе абяцае быць спрыяльным для нас. Гэта значыць, што дзіця будзе дасьпелець, усё ясьней разумеючы сябе і свой будучы лёс. Пакуль жа яно яшчэ блытаецца ў паняцьцях. Напрыклад, ня можа вызначыцца, ці дыктатура над ім, ці акупацыя. А гэта — розныя зьявы, прынамсі, рознага вымагаюць ідэйнага і «тэхнічнага» супрацьстаяньня. Праўда, хвалююць такія праблемы пакуль толькі палітыкаў. Для астатніх ні дыктатура, ні акупацыя, бадай, ня бачныя.

Дзіця не вінаватае ў тым, што яно малое і паводзіць сябе ня так, як дарослыя (гэта да папрокаў на адрас беларусаў). Зь іншага боку, неразумна, гледзячы на малое, якое вучыцца хадзіць і гаварыць, казаць пра гібель нацыі і гібель мовы.

Ужо сёньня відаць, што наша дарагое дзіця разумнее. Яно разьвітваецца з дундай камунізму і робіцца менш легкаверным. Гледзячы на сваю нацыю, мы перажываем гэткія самыя пачуцьці, як калі б глядзелі на дзіця: клопат, радасьць, гатовасьць у кожны момант прыйсьці на дапамогу.

# Скончыла век

31 сьнежня 2000 г. сканала Вера Церлюкевіч. Яна не ступіла разам з намі ў Трэцяе Тысячагодзьдзе, аднак на свае хаўтуры сабрала мноства людзей.



2 студзеня труну зь целам прывезьлі да пад'езду дома на Розачцы, дзе й адбылося адпяваньне й разьвітаньне. Яе маленькая кватэра не ўмясьціла б і дзясятай часткі яе сяброў. Схуднелы, зжаўцелы твар спн.Веры быў закінуты ў неба. Яе зь цяжкасьцю можна было пазнаць. Рак страўніка зьеў за тры месяцы... Сябры даставалі ёй наркотыкі, з-за якіх у апошнія дні яна ўжо нікога не пазнавала.

Адпяваў а.Леанід Акаловіч, псальмы й “Магутны Божа” сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Аляксея Галіча. Кветкі, сьвечкі, сум.

Разьвітальныя словы сказалі Мікола Анцыповіч, Вінцук Вячорка, Валянцін Голубеў, Юры Хадыка, Алесь Чахольскі.

Яшчэ ў лютым 2000 г. спн.Вера падала ў суд на Зімоўскага за абразу гонару й годнасьці тысячаў удзельнікаў Маршу Свабоды, энэргічна ўдзельнічала ў працэсе, аднак суд вырашыў, што “адмарозак” – проста эпітэт, цалкам дапушчальны для беларускай журналістыкі.

Вера Церлюкевіч паходзіла са зьнішчанай Чарнобылем вёскі Высокі Борак Краснапольскага раёну. Сябры кажуць, яна езьдзіла на вясковыя могілкі штогод. На хаўтурах сябры задумаліся, што ж загубіла Веру ў 59 гадоў? Чарнобыль? Праца на трактарным заводзе? Падзеньне з крану й калецтва? Страйкі, галадоўкі, турма, штрафы, змаганьне з маёрам Гірэлем і іншымі міліцыянтамі? Жыцьцё яе не было лёгкім. І да перамогі здаровага розуму ў Беларусі яна не дажыла.

Хай жа з вышыні назірае за нашым змаганьнем і перамогамі. Мы будзем памятаць яе — бясстрашную Веру.

**Сьвятлана Курс**

# Перамога партызанаў

*Мэксыканскі прэзыдэнт ідзе на саступкі сапатыстам*

У суботу мэксыканскі прэзыдэнт Вісэнтэ Фокс зачыніў вайсковую базу ў акрузе Хальначох у штаце Ч'япас. Чарговае патрабаваньне паўстанцаў-сапатыстаў выкананае. У суботу былі таксама вызваленыя зь вязьніцы 17 партызанаў. Яшчэ раніцай у суботу 700 тамтэйшых індзейцаў мітынгавалі ля базы. А ў 12.30 іхныя патрабаваньні нечакана задаволілі: жаўнеры сабралі валізкі ды танкі ды зьехалі за 40 міляў на цэнтральную базу ў Сан Крыстабаль дэ Ляс Касас. Сапатысты бунтуюць супраць парушэньня правоў індзейцаў роўненька з 1 студзеня 1994 г. Новы прэзыдэнт Мэксыкі Вісэнтэ Фокс адразу зачыніў вайсковыя КПП у Ч'япасе ды накіраваў у парлямэнт законапраект аб правах індзейцаў. Задаволеныя сапатысты гатовыя пачаць мірныя перамовы.

**Алесь Кудрыцкі**

---

рыхтуецца да друку

Перад Новым годам у Менску невядомыя закідалі сынагогу бутэлькамі з запальнай сумесьсю. Людзі ў бажніцы загасілі пажар. Гэта ня першы выпадак такога кшталту. 28 тысячаў беларускіх жыдоў штомесяц сутыкаюцца з актамі агрэсіі. Адкуль растуць карані навачаснага антысэмітызму?

**Чытайце ў артыкуле Якава Гутмана**

**БАРАБАНШЧЫКІ АНТЫСЭМІТЫЗМУ**

у адным з наступных нумароў "НН". Пытайцеся ў шапіках "Белсаюздруку" і "Белпошты", а найлепш — падпісвайцеся. Падпісны індэкс 63125.

---

**РАЗАМ НА ПАРОЗЕ**

Сёньня, на парозе трэцяга тысячагодзьдзя, азіраючы мінулае і ўглядаючыся з трывогай і надзеяй у будучыню, мы зьвяртаемся да вас, суайчыньнікі, сябры, калегі і аднадумцы, вэтэраны нацыянальнага руху Беларусі. Дзе б вы ні былі - на Радзіме ці ў замежных краінах — згуртуемся пад нашымі спрадвечнымі сымбалямі, каб абараніць спрадвечныя чалавечыя каштоўнасьці: свабоду асобы і незалежнасьць Краіны. Зьяднаемся, каб разам пераадолець катастрафічную разьяднанасьць, пэсымізм і разгубленасьць. З гэтай мэтай ствараецца новая грамадзкая арганізацыя - згуртаваньне ўдзельнікаў адраджэнскіх, незалежніцкіх, вызвольных рухаў.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх, хто на працягу апошніх дзесяцігодзьдзяў бараніў ад вынішчэньня нашую культуру і мову, нашую прыроду і гісторыю, нацыянальную годнасьць і свабоду. Партыйная, канфэсійная, нацыянальная прыналежнасьць, сацыяльны статус і век значэньня ня маюць.

Будзьма разам у галоўным. Дробнае - разам пераадолеем.

З Новым годам, дарагія сябры!

Аргкамітэт: Міхась Чарняўскі (каардынатар), Уладзімер Крукоўскі, Зьдзіслаў Сіцька, Аляксей Марачкін, Зьміцер Санько, Уладзімер Арлоў, Валеры Мазынскі. Кантактныя тэлефоны: (+375-17) 246-43-15, 284-13-22

---

# Чэскі бунт

**Чэхія знаходзіцца ў няпэўным стане — эканамічнага росту больш не назіраецца, у краіне ўзмацніліся камуністы, буяе расізм, мытная унія са Славаччынай уступіла ў дзеяньне, але Аўстрыя пасьпяхова бляхуе ўступ краіны ў Эўразьвяз, патрабуючы закрыцьця Тэмэлінскае АЭС ля свае мяжы. Ды, як той казаў, нам бы іх крызыс — у Празе за даляр можна купіць 8 пляшак піва "Велькапаповіцкі Козел". Чэскія крызысы — турботы сталага грамадзтва, дзякуючы якім дэмакратычныя краіны абнаўляюць і мадэрнізуюць свае сыстэмы. Так і ў выпадку апошняга "тэлевізійнага крызысу".**

Дзьве найбуйнейшыя партыі краю — кіраўнічыя сацыял-дэмакраты прэм'ера Зэмана і правая Грамадзянская Дэмакратычная былога прэм'ера Клаўса хаўрусуюць, бо сацыял-дэмакратычны ўрад меншасьці без падтрымкі ГДП страціў бы падтрымку парлямэнту. Дзьве партыі падзялілі сфэры ўплыву — эсдэкі пераймаюць урадавыя пасады, а грамадзкую сфэру аддаюць ГДП. Адно з асноўных зацікаўленьняў "дзіўнай кааліцыі" — два каналы грамадзкага Чэскага Тэлебачаньня, якое, дарма што дзяржаўнае, ёсьць самакіраваным. А таму вельмі вольным і часта крытычным да тых ці іншых палітыкаў.

Грамадзкімі СМІ ў Чэхіі кіруе адмысловая назіральная рада. Але нават да гэткага памяркоўна-кантралюючага органу журналісты з ЧТ вельмі крытычна ставіліся, мяркуючы, што над журналістамі ўвогуле ня мусіць быць ніякага нагляду. І калі рада паставіла кіраваць неслухамі з ЧТ Іржы Ходача, чалавека, зьвязанага з ГДП, гэта выклікала буру. Ад 22 сьнежня журналісты, ня згодныя з новым прызначэньнем, замкнуліся ў студыі навінаў і пачалі выпускаць свае, на думку новага кіраўніцтва, "незаконныя" інфармацыйныя перадачы.

Новы начальнік усяляк спрабаваў спыніць іх, нават перарваў вяшчаньне. Але бунтаўнікі не пакідалі студыі, а ля муроў тэлецэнтру сабраліся да 5 тыс. чалавек, што падтрымлівалі журналістаў. Сваю падтрымку бунту выказаў і прэзыдэнт Вацлаў Гавэл ды многія чэскія інтэлектуалы — абгрунтоўваючы гэта сьвятасьцю права на свабоду слова.

Добра чэскай культурніцкай эліце, у якой за плячыма — прэзыдэнт Гавэл, які хоць і пайшоў у палітыку, але сваіх інтэлектуальных штукарстваў ня кінуў. (Ходзіць байка, што ён цішкам дамовіўся з анархістамі, змагарамі з МВФ і сусьветным капіталізмам: наша паліцыя дае вам разьбіць "Макдональдз", а вы за гэта не кранаеце гістарычных помнікаў. І так яно й выйшла.) Цяпер Гавэл сказаў, што хаця дырэктар і прызначаны паводле законнай працэдуры, але гэтае прызначэньне супярэчыць духу закону, ды параўнаў сёньняшнюю сытуацыю з камуністычным пераваротам 1948 г., "ажыцьцёўленым абсалютна законным шляхам, але насуперак духу й сэнсу канстытуцыі".

Абаронцы Ходача цьвердзяць, што супраць ягонага абраньня бунтуе народ "праская мафія" — інтэлектуалы сталіцы, што робяць грошы на ЧТ. Ходач намякае на нячыстыя фінансавыя справы апошніх гадоў на грамадзкім ТВ. Новы дырэктар пагражае бунтаўнікам крымінальнымі справамі. Разьвязаньня праблемы будзе шукаць 5 студзеня адмысловая пасьлякалядная сэсія парлямэнту.

Грамадзкае ТВ заўжды знаходзіцца ў складаным становішчы: з аднаго боку, яно ўлучанае ў структуры дзяржавы, а з другога — мае служыць, у ідэале, як мага большай частцы грамадзтва. Але тутака ёсьць свае пасткі. У Італіі, напрыклад, было вырашана падзяліць перадачы дзяржаўнага ТВ між рознымі партыямі, што мусіла, паводле задумкі, ураўнаважыць уплывы. Выйшла ж, што грамадзкае тэлебачаньне запоўніла бессаромная палітычная прапаганда, і ўрэшце прыватныя каналы Бэрлюсконі адабралі гледачоў у такой "плюралістычнай" тэлевізіі. Гэта мела наступствам узьлёт папулярнасьці гэтага папуліста, які мае ўсе шанцы прыйсьці да ўлады сёлета.

З-за крызы ЧТ таксама чакаюць страты, бо ня будуць выкананыя абавязкі па рэкляме, а многія гледачы адыдуць да прыватнага каналу *Nova*, што, як і шэраг каналаў у іншых краінах, накшталт *"Markíza"* ў Славаччыне ці "1+1" ва Ўкраіне, быў створаны для дэманапалізацыі інфармацыйнае прасторы, з удзелам замежнага, пераважна нямецкага, капіталу. Ці ня стане ўладальнік *"Nova"*, сп.Жэлязны, новым чэскім Бэрлюсконі?

Але, як выяўляецца, чэскае грамадзтва ўжо гатовае процістаяць любым, нават, як на беларускія меркі, зусім нязначным замахам на вольнасьць слова.

**Язэпат Змысла**

---

# Нататкі зь цемры

*Прывезены ў Менск фільм Ларса фон Трыера расчароўвае*

Ня ведаю, як вы, шаноўны чытачу, а я цяпер бываю ў кіне надта рэдка. Якое там кіно, калі самое жыцьцё часам падобнае да якоганебудзь заштатнага трылеру? Дый навошта марнаваць час і грошы на "Сібірскага цырульніка", які ўжо загадзя сьмярдзіць расейскай канаплёю, фальшам і кепскім густам, ці на апошні шэдэўр Пташука, у якім усялаўляюцца "подзьвігі" НКВД? Ратуйце нас, спадарства, ад такога кінэматографу!

Аднак калісьці й наш Бог прычынаецца – у кінатэатры "Кастрычнік" (чакаю не дачакаю, калі ў нас будзе кінатэатар "Сакавік" ці, напрыклад, "Верасень") цэлы тыдзень ці два запар паказвалі апошні эўрапейскі гіт пад назваю "*The Dancer in the Dark*" ("Танцорка ў цемры"). Упершыню за доўгі час людзі пачалі пытацца адзін аднаго: "Ці ты ўжо глядзела?"

Я таксама пала ахвяраю ажыятажу. Мне карцела вытанчанае і празрыстае паўночнае прыгажосьці, недасказанасьці, нейкага эстэтства, якога так не стае ў жыцьці і ў галівудзкіх фільмах зь іхным заміламаньнем да банальных жыцьцёвых падрабязнасьцяў.

Фільм прыкладна гэтаксама адрозьніваўся ад маіх жаданьняў, як казкі Андэрсана — ад казак пра Леніна. (Ларс фон Трыер прыйшоў на сьвет акурат у тым самым Одэнсэ – былой сталіцы Дацкага каралеўства – дзе й вялікі казачнік.) Прынцыпова – аніякага эстэтызму, а толькі голая праўда жыцьця.



Ларс фон Трыер

Брыдкая і вартая жалю гераіня зь нямытымі валасамі, у брыдкіх акулярах і цвэдры, які б я даўно аддала бамжам. Брыдкая і брудная фабрыка, дзе працуе гераіня. Кухня, на якой яна хавае свае брудныя даляры. Фабрычны клюб, накшталт наскіх, з закуранай стольлю і разламанымі крэсламі. Празаічна-брыдкая турма з брыдкімі турэмшчыкамі. Адзіная радасьць для вока – сьціплая, амаль беларуская бярозка, якая часам-ткі трапляе ў камэру, ці трактар з прычэпам сена. Няўжо менавіта гэтак мусіць выглядаць сапраўдная Амэрыка? І што тут робіць Катрын Дэнёў – апранутая ў фабрычную хустку парыская гранддама (сяброўка гераіні), з штучнай заклапочанасьцю на выпелеганым, наскрозь кіношным твары? Ці можна паверыць, каб гэткая кабета штодзень рупілася ля мэталаапрацоўчага станка? Не, спадар рэжысэр нешта памыліўся ў сваіх разьліках. Ці, наадварот, разьлік быў слушны, але не ў мастацкім сэнсе, а ў камэрцыйна-рэклямным.

Так ці інача, але "праўда жыцьця" апынулася пад сумневам. Больш за тое, у пэветры выразна павеяла тым самым галівудзкім духам, якога ў ранейшых фільмах фон Трыера не адчувалася. Галівуд забаўляе людзей; Ларс фон Трыер меўся прынесьці ім новае адкрыцьцё, роўнае эвангельскім прароцтвам. Думаеце, ён занадта амбітны? У задумцы нова фільму амбітнасьці ані кроплі ня больш, чым у дапасаваньні да свайго прозьвішча арыстакратычнай прыстаўкі "фон", атрыманай у студэнцкія гады ад сяброў у якасьці жартаўлівае мянушкі. (А то вы думалі, адкуль гэтае нямецкае "фон" у прозьвішчы чыстакроўнага датчаніна!) Урэшце, палова нашых з вамі прыяцеляў, якім не ўдалося здабыць калі не Нобэлеўскую прэмію, дык прынамсі Букераўскую ці, на благі канец, Оскара, – трызьняць сябе апосталамі. Усё пытаньне ў тым, ці здольныя яны паведаміць навакольнаму сьвету нешта апостальскае?

У нашым выпадку сп.Трыер — нагрук ці. Па-за абсягам звычайнае інтэлігенцкае дэпрэсіі. Ён прапануе нам новага Хрыста ў выглядзе брыдкай і жалкай кабеты... Навошта? У фільме я не знайшла нічога, апрача моцнага і заразьлівага дзіцячага страху перад жыцьцём, сьмерцю й нармальнаю чалавечаю шчасьцю. Нас старанна ўмаўляюць, што жыцьцё – гэта суцэльная недарэчнасьць, прыкрая памылка, якая вынікае з ірацыянальнасьці і эгаізму нашых бацькоў. Што сьветам кіруе нясвятая прага грошай, патрэбных для заспакаеньня жывёльных інстынктаў. Што дзеля грошай кожны з нас здольны ўмомант ператварыцца ў забойцу. Што шчырасьць небясьпечная, каханьне немагчымае, а ахвяры дарэмныя. І што адзіны паратунак ад гэтага кашмару – мастацтва, якое, па сутнасьці, ёсьць сьмяротна небясьпечнай ілюзіяй і летуценьнем. Магчыма, у тым жыцьці, якім жыве сп.Трыер разам са сваімі фанатамі, усё гэта – чыстая праўда; альбо, яшчэ верагодней, – эфэктная поза ці адмысловы спосаб самаапраўданьня. Гэтыя людзі сьвядома ці несьвядома выбралі цемру, і ім нічога іншага не застаецца, як толькі скакаць – вядома ж, самім з сабой і толькі ў цемры, бо ў жывых промнях сонца іхнае няўмельства адразу сталася б відавочным. Аднак жа сьвет нармальных людзей існуе паводле іншых законаў – інакш аніводнае дзіця не дажывала б да сталасьці.



Танцорка і яе сяброўка

Аднак не адной філязофіяй жыве кінэматограф. Ну, а што ж мастацтва? На жаль, і ў гэтым сэнсе Трыер расчараваў. Канечне, усё зроблена вельмі прафэсійна – амаль ня горш, чым у амэрыканцаў. Густая, пахкая атмасфэра. "Круты" сюжэт зь нечаканымі заваротамі. Добра прадуманыя падрабязнасьці. Квадрафанічны гук. Музыка – мо не надта запамінальная, але досыць выразная. Але адкуль гэтае пачуцьцё страшэннае другаснасьці? Адзін кадар запазычаны з Кесьлёўскага, другі – з Боба Фоса, агульная атмасфэра і эстэтыка – ізноў жа з Кесьлёўскага. Схематычныя акторы. І ў дадатак, гэтыя танныя, дакучлівыя кліпы, якія мелі выяўляць летуценны ўнутраны сьвет галоўнае гераіні, але напраўдзе адлюстравалі толькі благі густ самога аўтара.

Найдзіўнейшае, што наша публіка з гонарам вытрымала гэтае выпрабаваньне. Амаль ніхто ня выйшаў з залі.

**Юлія Андрэева**

**Беларускія выдаўцы імкнуліся выдаць да канца старога тысячагодзьдзя як мага болей кніг, каб сустрэць новы век без старых забавязаньняў перад кнігалюбамі. Інакш цяжка вытлумачыць амаль бясконцую плынь новых выданьняў, што апошнімі тыднямі палілася ў менскія кнігарні – штодня на паліцах зьяўляюцца адна-тры новыя кнігі. Гэта цешыць. Вядома, сярод згаданых тутака кніг вы знойдзеце зусім вам непатрэбныя. Але і яны — беларускія.**

**Чытайце. Выбірайце. Шукайце ў кнігарнях – і набывайце.**



*Пэрыядычныя выданьні перажываюць у нас не найлепшую пару. Недзяржаўныя задыхаюцца ад нястачы грошай, дзяржаўныя — ад унутранай цэнзуры.*

**Arche**: Слоўнік Свабоды. № 7 (12), 2000. - Менск, 2000. - 208 с. - Наклад 1500 ас. ISSN 1392-9682

*Гэты нумар часапісу — вынік праекту Радыё Свабода, на хвалях якога штодня цягам 1999 г. гучэла праграма «Слова дня». Першым прагучэла слова «Бог», апошнім - «Слова», агулам слоў 365 - колькі дзён у годзе. У праекце ўзялі ўдзел 36 аўтараў, спасярод якіх Р.Барадулін, У.Арлоў, З.Бартосік, Ю.Бушлякоў, З.Пазьняк, С.Сокалаў-Воюш, А.Лукашук, С.Шупа.*

*У некаторых кнігарнях зьявіўся ў продажы таксама восьмы нумар Arche - чарговы аналітычна-крытычны агляд "Скарына" з артыкуламі Сакрата Яновіча, Андрэя Екадумава, Юрася Лаўрыка, Людмілы Рублеўскай, Рычарда Пайпса, Сяргея Астраўцова, Юр'я Андруховіча, Алеся Аркуша, Надзеі Садзікавай, Антонія Запалоты. Тэмы нумару - Васіль Быкаў, сталіцы і правінцыі, мода на "ліцьвінізм", пагрозы Расеі, культ мёртвых у сучаснай Беларусі.*

**Віцебскі сшытак**: Гістарычны навукова-папулярны часапіс. № 4, 2000. - Віцебск, 2000. - 224 с.: іл. - Наклад 250 ас.

*Часапіс выходзіць з 1995 г. Выйшлі чатыры нумары. У гэтым нумары Л.Хмяльніцкая дасьледуе жыцьцяпіс і радавод Аляксея Сапунова, які, апроч вывучэньня беларускае даўніны, быў яшчэ й дэпутатам III Дзяржаўнае Думы Расейскай Імпэрыі. Пра колішнія шляхецкія сядзібы Віцебшчыны піша А.Хведарук. Здраўнёва Рэпіна - аб'ект зацікаўленьня В.Шышанава, які на фоне старых фатаздымкаў з будзённага жыцьця Здраўнёва расказвае пра лёс сям'і Рэпіных у Савецкай Беларусі. Гэтаксама ў часапісе знойдзеце матар'ялы да жыцьцяпісу мастака А.Мініна.*

**Кантакты й дыялёгі**: Бюлетэнь «Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў» ды «Беларускага таварыства дружбы й культурнае сувязі з замежнымі краінамі». № 11-12 (59-60). - Менск, 2000. - 64 с.: іл. - Наклад 299 ас.

*Сярод матар'ялаў нумару - нарыс У.Галузы «Чатыры стагодзьдзі ўдзелу беларускае дыяспары ў фармаваньні соцыюму Сібіры», тэкст Г.Кісялёва «Францішак Скарына й Аўхім Лялевель». Апроч таго, хроніка беларусазнаўчага жыцьця й рэцэнзіі на новыя кнігі.*

**Спадчына**. № 4 (141), 2000. - Менск, 2000. - 224 с.: іл. - Наклад 1548 ас. ISSN 0236-1019

*Не пакіньце па-за ўвагаю радыйных праграм Юркі Віцьбіча «Наша спадчына прамаўляе», пакладзеных на паперу і ўпершыню надрукаваных у гэтым нумары «Спадчыны». Каштуе 950 р.*

**Фрагмэнты філязофіі, культуралёгіі, літаратуры**: Эўропа й яе Іншыя. № 3-4 (9), 2000. - Менск, 2000. - 304 с. ISSN 1648-0651

**Эпоха**: Лістапад 2000 г. - Менск, 2000. - 82 с.: іл.

*Самы цікавы матар'ял нумару - нарыс пра пажары «Па начох на папялішчы вылі сабакі».*

*Надоечы выйшла колькі канечна патрэбных і грунтоўных мастацтвазнаўчых кніг.*

В.Шматаў. **Мастацтва беларускіх старадрукаў (XVI – XVIII ст.)**. - Менск: Тэхналёгія, 2000. - 131 с.: (20) арк.іл. - Наклад 370 ас. ISBN 985-6234-93-X

*Віктар Шматаў - знаўца беларускае гравюры Сярэднявечча. Кніга падсумоўвае дасьледаваньні мастацкай аздобы беларускіх старадрукаў. Ягоная папярэдняя кніга пра кніжную гравюру адразу па выйсьці ў сярэдзіне 1980-х сталася рэдкасьцю. Зважаючы на наклад, варта пасьпяшацца з набыцьцём гэтага фаліянту - каштуе 11,5 т.р. і прадаецца толькі ў кнігарні "Тэхна" ў Акадэміі мастацтваў.*

**Ткацтва**: Зборнік матар'ялаў па беларускім народным ткацтве / Уклад. В.Лабачэўская. - Менск: Беларускі інстытут праблем культуры, 1999. - 100 с.: іл. - Наклад 500 ас. ISBN 985-6138-04-3

*У кнізе сабраны артыкулы навуковага, гістарычнага й мэтадычна-практычнага характару. Мэта кнігі - прыцягненьне да вывучэньня й зьберажэньня гэтага традыцыйнага віду народнае творчасьці як мага шырэйшага кола людзей.*

*Культуралягічныя праблемы разглядаюцца ў працах, прысьвечаных вуснай народнай творчасьці й пытаньням сусьветнае культуры.*

**Беларускія загадкі**: Дасьледаваньне жанру. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. - 80 с. - Наклад 150 ас. ISBN 985-6038-01-1

*Комплексна разглядаюцца беларускія загадкі як жанар народнае творчасьці: функцыянальныя адметнасьці, клясыфікацыя, гукапіс, граматыка загадак, іхная сувязь зь іншымі жанрамі фальклёру.*

М.Крукоўскі. **Філязофія культуры**: Уводзіны ў тэарэтычную культуралёгію: Навуч. дапаможнік. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. - 192 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-09-0363-9

*Раскрываюцца асноўныя праблемы тэарэтычнае культуралёгіі. Для студэнтаў філязафічных і культуралягічных спэцыяльнасьцяў ВНУ. Цана - 2,2 т.р.*

А.Аксамітаў. **Прыказкі й прымаўкі**: Тлумачальны слоўнік беларускіх прыказак і прымавак з архіваў, катэдральных збораў, рэдкіх выданьняў XIX і XX ст. - Менск: Беларуская навука, 2000. - 320 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0315-0

*Скарбы народнае творчасьці расьсыпаны ня толькі па вёсках ды хутарох, але й ляжаць пад пылам архіўных сховішчаў і бібліятэк. Струсіўшы пыл з папак ды фаліянтаў віленскіх, лёнданскіх, менскіх, кракаўскіх і пецярбурскіх архіваў, А.Аксамітаў выбраў найцікавейшыя ўзоры беларускіх прыказак і прымавак з рукапісных помнікаў мінулых стагодзьдзяў. Бальшыня прыкладаў паходзіць з абшараў Заходняе й Цэнтральнае Беларусі ды Палесься.*

*Беларускія гісторыкі працягваюць займацца асьветнай працай.*

**Бацькаўшчына**: Зборнік гістарычнае літаратуры: Для сярэдняга й старэйшага школьнага веку / Уклад., прадмова С.Панізьніка; мастак А.Званароў. - Менск: Юнацтва, 2000. - 382 с.: (8) арк.іл. - Наклад 5000 ас. ISBN 985-05-0353-3

*Як выяўляецца хрысьціянскі сьветагляд у творчасьці беларускіх пісьменьнікаў ад старажытнасьці да нашага часу - найлепей адлюстравана ў прысьвечаным гэтай тэме зборніку гістарычнае літаратуры "Бацькаўшчына".*




**Гісторыя Беларусі ад старажытнасьці да XXI ст.**: Кароткі нарыс. - Менск: Лекцыя, 2000. - 80 с. - Наклад 400 ас. ISBN 985-6305-21-7

*Коратка разглядаюцца найважнейшыя падзеі, што адбываліся на нашых землях з дагістарычных часоў дасёньня.*

**Гісторыя Беларусі**: Навучальны дапаможнік. У 2-х частках. Ч.1. Ад старажытных часоў - да лютага 1917 г./ А.Новік, Г.Марцуль, І.Качалаў ды інш.; Пад рэд. А.Новіка, Г.Марцуля; 2-е выд., перапрацаванае й дапоўненае. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. - 416 с.: іл. - Наклад 6000 ас. ISBN 985-09-0351-1

*Непісьменнае і тэндэнцыйнае выданьне.*

А.Вішнеўскі, І.Вішнеўская. **Гісторыя дзяржавы й права Беларусі**. - Менск: Філсэрва-плюс, 2000. - 134 с. - Наклад 1000 ас. ISBN 985-6489-17-7

*Коратка пра найгалаўнейшыя этапы разьвіцьця юрыдычнае навукі ў нашым краі. Для студэнтаў.*

А.Клышка. **Францыск Скарына, альбо Як да нас прыйшла кніга** / 2-е выд. - Менск: Полымя, 2000. - 96 с.: іл. - Наклад 7000 ас. ISBN 985-07-0315-6

*А.Клышка напісаў кнігу, каб расказаць дзеткам, як да нас прыйшла кніга ды хто яе прынёс. Цана 300 р.*

**Христианство в Беларуси**: История и современность/ Т.Короткая, А.Осипов, В.Теплова. - Менск: Моладзевае нав. тав-ва, 2000. - 72 с. - Наклад 3000 ас. ISBN 985-6609-14-3

*Нечакана многа ў сьнежні, параўнальна зь іншымі месяцамі, зьявілася кніг з краязнаўства. Цешаць гэткімі калянднымі падарункамі ня*




*толькі менскія выдавецтвы, але й варшаўскія калегі.*

**Віцебшчына**: Назовы населеных пунктаў паводле легендаў і паданьняў/ Складаньне, запіс і апрац. А.Ненадаўца. - Менск: Беларусь, 2000. - 475 с.: іл. - (Мой родны кут). - Наклад 2000 ас. ISBN 985-010107-5

А.Карлюкевіч. **І векавечны толькі край**. - Менск: Полымя, 2000. - 384 с.: іл. - Наклад 2000 ас. ISBN 985-07-0200-1

*Рэдактар «Чырвонае змены» расказвае пра ўраджэнцаў Беларусі, якія сваімі справамі й талентамі ўславілі Бацькаўшчыну і іншыя краі. Цана 700 р.*

А.Карлюкевіч. **Ігуменскі блякнот**: Краязнаўчыя замалёўкі. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. - 80 с. - Наклад 350 ас. ISBN 985-6318-89-0

*Алесь Карлюкевіч дасьледуе гісторыю ягонае роднае Ігуменшчыны.*

А.Сержпутоўскі. **Казкі й апавяданьні беларусаў Слуцкага павету**/ Мастак В.Мішчанка. - Менск: Унівэрсытэцкае, 2000. - 270 с. - (Повязь вякоў). - Наклад 2400 ас. ISBN 985-09-0361-9

*Гэта перадрук тэкстаў аднайменнае кнігі, што была выдадзена Інстытутам беларускае культуры ў 1926 г. у Ленінградзе. Цана 850 р.*

В.Тумаш. **Культура зямлі Астравецкай**: Асобы й творы: Біяграфічны даведнік. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. - 24 с.: іл. - Наклад 500 ас. ISBN 985-6638-02-X

*Зьмешчаны біяграфіі й партрэты найславуцейшых людзей ускрайку беларускае Віленшчыны.*

Г.Энгелькінг, Г.Рушчык. **Палесьсе**:




Фатаздымкі 20-х і 30-х гадоў / Пад рэд. Г.Вашчанкі, У.Някляева; Пер. з польскае В.Вярэніча і Н.Вашчанкі. - Варшава: Argraf, 1999. - 256 с.: іл. ISBN 83-85938-58-3

*Альбом 200 з гакам фатаздымкаў зь міжваеннага часу пра побыт насельнікаў Палесься ўпершыню выйшаў колькі гадоў таму па-польску, а цяпер - у перакладзе на беларускую. Кніга падрыхтавана Інстытутам мастацтва Польскай акадэміі навук супольна з Катэдраю беларускае культуры Беластоцкага ўнівэрсытэту. Каштуе 11 т.р.*

У.Цэйкін. **Радуга**: Краязнаўчы нарыс. - Менск: Пейто, 2000. - 40 с. - ("Ведаць свой край Беларусь"). - Наклад 500 ас. ISBN 985-6024-28-5

*Што мы ведаем пра веткаўскую вёску Радугу? З гэтай брашуркі мы дазнаемся пра жыцьцё забытага Богам кутка чарнобыльскае Беларусі.*

У.Лукша. **Старажытны Полацак**. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. - 32 с.: іл. - Наклад 550 ас. ISBN 985-6318-93-9

*Вялейскі мастак Уладзімер Лукша сабраў і выдаў альбомам свае замалёўкі бацькі беларускіх гарадоў, аздобленыя вершамі палачаніна Навума Гальпяровіча.*

**Хрысьціянскія храмы Беларусі на фатаздымках Яна Балзукевіча**: Пачатак XX ст. / Уклад. А.Кулагін, У.Герасімовіч; Па-бел. й па-анг. - Менск: Ураджай, 2000. - Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0048-X

*У гэтым выданьні сабрана 165 фатаздымкаў Яна Балзукевіча, на якіх адлюстраваны каталіцкія й праваслаўныя бажніцы краю, палова зь якіх ужо не існуе. Каштуе кніга ўсяго 1 т.р. з гакам і неўзабаве стане бібліяграфічнаю рэдкасьцю.*




**Шляхам Вайніловіча**: Да 90-годзьдзя касьцёла сьвятых Сымона й Алены/ Уклад. У.Завальнюк. - Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. - 160 с. - Наклад 500 ас. ISBN 985-6638-03-8

*Эдвард Вайніловіч вядомы як фундатар менскага Чырвонага касьцёла, а гэтаксама як адзін з найактыўнейшых беларускіх палітыкаў 1-е паловы XX ст., прыхільнік шчыльнага зьвязу з Польшчаю. Кніга аздоблена графічнымі малюнкамі мясьцін, зьвязаных з жыцьцём і чыннасьцяй Э.Вайніловіча аўтарства мастака Ўладзімера Лукшы. У дадатку ў кнізе зьмешчана п'еса «Храм», створаная ў духоўным тэатры «Анёл».*

Д.Ващукувна-Каменецка. **Брест – город незабываемый**. - Берасьце: Выд-ва С.Лаўрова, 1999. - 284 с. ISBN 985-6371-56-2

*Кніга прасякнута «крэсовасьцяй» - Берасьце, як і ўся міжваенная Заходняя Беларусь, разглядаецца вылучна як спрадвечна польскія абшары. Кніга выдадзена дзякуючы ксяндзу Зьбігневу Кароляку.*

А.Федорук. **Старинные усадьбы Минского края**. - Менск: Паліфакт - Лекцыя, 2000. - 416 с.: іл. - ("Старинные усадьбы Беларуси"). - Наклад 500 ас. ISBN 985-6107-24-5

*Выдавецтвы "Паліфакт" і "Лекцыя" з дапамогаю фундушу літаратара й бізнэсоўца з Дудутак А.Будзінаса распачалі выданьне сэрыі кніг "Даўнія сядзібы Беларусі". Аўтар - А.Хведарук - найлепшы знаўца прыватных сядзіб і палацаў краю. Першая кніга сэрыі прысьвечана сядзібнаму дойлідзтву Меншчыны. Поруч з найбуйнейшымі палацава-паркавымі ансамблямі ў Снове, Валожыне, Раванавічах, Нясьвіжы гаворыцца пра малавядомыя сядзібы, даўнія паркі. Выканана навукова-мастацкая рэканструкцыя плянаў 40 сядзіб, у тым і славутае Радзівілавае Альбы. Арыгінальныя малюнкі, дакумэнтальныя фатаграфіі. Каштуе гэткі фаліянт 40 т.р.*

*Сьнежань стаўся «зорным» месяцам гісторыка й літаратара Ўладзімера Арлова. Бог падарыў У.Арлову ажно чатыры кнігі, што адначасна выйшлі ў выдавецтвах Беластоку, Вільні й Менску.*

У.Арлоў. **Адкуль наш род**: Апавяданьні з гісторыі Беларусі для малодшых школьнікаў; прадмова Р.Барадуліна; мастак В.Сташчанюк/ 2-е выд., дапоўненае. - Вільня: Наша Будучыня, 2000. - 127 с.: іл. - Наклад 5000 ас. ISBN 9986-9228-9-5

*Першае выданьне гэтае кнігі для дзяцей пра гісторыю Беларусі зьявілася ў менскім выдавецтве «Бацькаў-*

# ПОШНІЯ КНІГІ СТАРОГА ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ



*шчына» ў 1996 г. як «літаратурна-мастацкае выданьне». Гэтае, другое, выданьне мае «навукова-папулярны», значна дапоўнены зьмест. Кніга павялічана на 21 старонку. У адрозьненьне ад першага выданьня, усе ілюстрацыі каляровыя. Зьявіліся новыя разьдзелы пра Смаленскае княства, Вялікага гетмана Яна Кароля Хадкевіча, вынаходніка Казімера Семяновіча, Багушэвіча, Багдановіча, беларускае Адраджэньне, БНР. Зьнік разьдзел пра Крычаўскае паўстаньне сярэдзіны XVII ст. Прадмову да першага выданьня напісаў гісторык Павал Лойка, да новага ‑ Рыгор Барадулін.*

У.Арлоў, Г.Сагановіч. **Дзесяць вякоў беларускай гісторыі** (862 ‑ 1918). Падзеі. Даты. Ілюстрацыі; 2-е выд. ‑ Вільня: Наша Будучыня, 2000. ‑ 223 с.: іл. ‑ Наклад 5000 ас. ISBN 9986-9219-8-8

*Гэтая кніга была прададзена за паўтара месяца на пачатку 2000 году ў ліку 5 тыс. асобнікаў. Можна меркаваць, што гэткая сама доля чакае й новы наклад кнігі папулярызатара гісторыі У.Арлова й знаўцы Сярэднявечча Г.Сагановіча.*

**Эўфрасіньня Полацкая**/ Аўтар-уклад. У.Арлоў; маст. У.Фандулеў. ‑ Менск: Полымя, 2000. ‑ 272 с. ‑ Наклад 2000 ас. ISBN 985-07-0198-6

*На пачатку 1990-х У.Арлоў выдаў дзьве амаль стэрэатыпныя кнігі пра славутую палачанку ‑ хрысьціянскую асьветніцу Эўфрасіньню Полацкую. Гэтае выданьне ўдакладнена новымі зьвесткамі. Пры канцы кнігі зьмешчаны жыцьцяпіс сьвятое ды вершы беларускіх паэтаў, прысьвечаныя апякунцы нашае зямлі. Кніга выдатна аздоблена й каштуе ўсяго 750 р.*

Uładzimier Arłou. **Requiem dla piły motorowej/** Wybór i posłowie Jan Maksymiuk. – Áĺëŕńńîę: Związek Białoruski w Rzeczpospolitej Polskiej, 2000. – 260 ń. – (Seria wydawnicza «Biaźmiežža»).

*У зборнік увайшлі перакладзеныя ў польскую мову аповеды У.Арлова апошняга дзесяцігодзьдзя.*

*Даведніцкая літаратура заўсёды была запатрабаваная. Гэтым месяцам выйшла дзьве кнігі, што, можна меркаваць, неўзабаве не заляжацца на паліцах кнігарняў.*

**Русско-сербский разговорник**/ Rusko-srpski priručnik za konverzaciju/ Автор-сост. Л.Воробей. ‑ Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. ‑ 440 с. ‑ Наклад 1000 ас. ISBN 985-6318-90-4

*Зьмяшчае больш як 5 тысяч слоў і выразаў. Прызначаны перадусім турыстам, якія наведваюць Сэрбію.*

**Слоўнік асабовых імёнаў**: Беларуска-расейскі й расейска-беларускі / уклад. У.Сарока; нав.рэд. М.Крыўко. ‑ Менск: Тэсэй, 2000. ‑ 280 с. ‑ Наклад 1000 ас. ISBN 985-6454-80-8

*Упершыню ў незалежнай Беларусі выходзіць гэткі даведнік. (Папярэдні «Слоўнік асабовых уласных імён» быў выдадзены ў 1966 г.) Аўтар не адышоў ад некаторых "кансэрватыўных" прынцыпаў савецкага мовазнаўства. За раўнапраўныя разглядаюцца, напр., як формы "Яўген" ды "Антон", гэтак і "Яўгені" ды "Антоні". "Вінцук" разглядаецца як гутарковы варыянт імя "Вінцэнт". Аўтар кнігі пайшоў шляхам перадаваньня некаторых беларускіх імён па-расейску з захаваньнем іхнае аўтэнтычнае формы, прыкладам: "Зміцер ‑ Змитер". Каштуе 2,5 т.р.*

**Хто ёсьць хто сярод беларусаў сьвету**: Энцыкляпэдычны даведнік. Ч.1. Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў памежных краінах / Рэд. калегія: А.Мальдзіс ды інш. ‑ Менск: Энцыкляпэдыкс, 2000. ‑ 300 с. ‑ Наклад 1000 ас. ISBN 985-6599-17-2

*Матар'ял даведніка згрупаваны ў чатырох разьдзелах: агульныя артыкулы, беларускія арганізацыі, пэрыядычныя выданьні, пэрсаналіі. У разьдзел "Пэрсаналіі" лучылі як дзеячы беларускае дыяспары, гэтак і ўраджэнцы краю ‑ беларусы, расейцы, палякі, літоўцы, жыды, татары. У храналягічным пляне ўвага ў даведніку засяроджана на беларускай дыяспары XX ст., у разьдзел "Пэрсаналіі" лучылі гэтаксама матар'ялы XVI ‑ XIX ст.*

*Навінкі мовазнаўства прызначаны перадусім спэцыялістам.*

І.Чарота. **Беларуская мова й царква**. ‑ Менск: Сьвята-Петра-Паўлаўскі сабор, 2000. ‑ 176 с. ‑ Наклад 250 ас. ISBN 985-6594-02-2

*Славянафіл І.Чарота спрабуе акрэсьліць характар дачыненьняў праваслаўнае царквы й беларускае мовы. Разглядаюцца пытаньні гісторыі й тэорыі перакладу Сьвятога Пісьма на беларускую мову. Кніга прадаецца ў галоўным корпусе Акадэміі навук.*

**Беларуская лінгвістыка**: Выпуск 49 / Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі; рэд.калегія: А.Падлужны (адказны рэдактар) ды інш. ‑ Менск: Беларуская навука, 2000. ‑ 95 с. ‑ Наклад 300 ас. ISBN 985-08-0311-8

*Не зважаючы на "дубовую" мову А.Падлужнага ды часткі ягоных калег, у выпусках "Беларускае лінгвістыкі" можна заўсёды знайсьці карысныя зьвесткі з гісторыі й цяперашчыны беларускае мовы ‑ ад аналізу старажытных тэкстаў да нататак з культуры мовы й дыялекталёгіі.*

*Амаль штомесяца зьяўляецца нейкая новая кніга зь літаратуразнаўства.*

Л.Уладыкоўская-Канаплянік. **Акварэлі любові**: Канцэпцыя нацыянальнага сьветапогляду ў творчасьці Янкі Лучыны. ‑ Менск: Энцыкляпэдыкс, 2000. ‑ 126 с. ‑ Наклад 200 ас. ISBN 985-6599-18-0

**Гісторыя беларускае літаратуры**: XX стагодзьдзе (20‑50-я): Падручнік/ У.Гніламёдаў, В.Казлова, М.Лазарук ды інш.; Пад агульнаю рэд. А.Семяновіча/ 2-е выд., дапрацаванае й дапоўненае. ‑ Менск: Вышэйшая школа, 2000. ‑ 511 с. ‑ Наклад 6000 ас. ISBN 985-06-0492-1

*Першае выданьне кнігі выйшла ў 1981 г. з назовам «Гісторыя беларускае савецкае літаратуры». Новае выданьне прынцыпова розьніцца ад папярэдняга ‑ у ім зьявіліся некалі забароненыя імёны ды дапісаны артыкулы пра іншых аўтараў ‑ тое, што раней замоўчвалася ці недагаворвалася. Каштуе 1900 т.р.*

**Уладзімер Караткевіч і ягоная творчасьць у эўрапейскім культурным кантэксьце**: Навук. зборнік / Рэд. калегія: А.Мальдзіс (галоўны рэдактар) ды інш. ‑ Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. ‑ 272 с. ‑ (Беларусіка = Albaruthenica, кн.16). ‑ Наклад 300 ас. ISBN 985-6318-94-7

*Яшчэ дагэтуль нам невядомая палова твораў У.Караткевіча ‑ таму яшчэ доўга выхад гэткіх зборнікаў будзе цешыць любцоў ягонай творчасьці.*

**Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатру й драматургіі**. У 3 т. Т. 3. 60-я гады XX ст. ‑ 2000 г./ Беларускі ўнівэрсытэт культуры; уклад., рэд. тэксту, аўтар уступнага артыкулу й камэнт. А.Сабалеўскі; 2-е выд., пашыранае і ўдакладненае. ‑ Менск: Беларуская навука, 2000. ‑ 478 с. ‑ Наклад 100 ас. ISBN 985-08-0359-7

*У галіне мастацкай літаратуры гэты месяц пацешыў нас пераважна клясыкай.*

У.Караткевіч. **Быў. Ёсьць. Буду**: Кніга паэзіі / Прадмова Р.Барадуліна; 3-е выд. ‑ Менск: Мастацкая літаратура, 2000. ‑ 157 с.: (8) арк.іл. ‑ Наклад 3500 ас. ISBN 985-02-0088-X

*Гэта ўжо трэцяе выданьне Караткевічавага бэстсэлеру.*

А.Разанаў. **Гліна. Камень. Жалеза**. ‑ Беласток, 2000. ‑ 96 с. ‑ (Бібліятэка Бел. літ. аб'яднаньня "Белавежа", кн. 34)

*Дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Георгі Марчук, якога газэта "Белорусская нива" разглядае як адзінага кандыдата ад... не, не ад беларускай апазыцыі на Прэзыдэнта, а ад беларускай літаратуры на Нобэлеўскую прэмію, змусіў быў Алеся Разанава сьціснуць свае творы ў адзін томік замест плянаваных да выданьня двух. А.Разанаў выдаецца цяпер у Польшчы. Ягоны новы зборнік усяго за 500 р. яшчэ можна прыдбаць у сталічнай "Кнігарні пісьменьніка".*

Р.Барадулін. **Зорка спагады**: Рамансы. ‑ Менск: Ковчег, 2000. ‑ 36 с. ‑ Наклад 500 ас. ISBN 985-6056-32-2

*Кніга паэзіі Р.Барадуліна выйшла разам з аднайменнаю касэтаю баляд на словы народнага песьняра ў выкананьні Алеся Камоцкага.*

С.Законьнікаў. **Лістам дарога запала...**: Выбранае. ‑ Менск: Мастацкая літаратура, 2000. ‑ 278 с.: іл. ‑ Наклад 1200 ас. ISBN 985-02-0228-2

*Прадмова да кнігі была напісана яшчэ Піменам Панчанкам, памёрлым у 1995 г. Тутака вершы С.Законьнікава апошніх 30 гадоў.*

Г.Бураўкін. **Паміж зоркай і сьвечкай**: Вершы. ‑ Менск: Бацькаўшчына, 2000. ‑ 160 с. ‑ Наклад 3000 ас. ISBN 985-6026-15-6

*Як застацца асобаю ў гэтым жорсткім сьвеце, як ня здрадзіць сабе й абараніць годнасьць сваю й свайго народу ‑ асноўная тэма паэзіі Г.Бураўкіна 1995‑97 гг. Цана ‑ 1 т.р.*

Р.Тармола-Мірскі. **Прычасьце**: Паэзія. ‑ Менск: Мастацкая літаратура, 2000. ‑ 288 с. ‑ Наклад 1200 ас. ISBN 985-02-0356-0

А.Вольскі. **Сьлед завірухі**: Вершы апошніх гадоў. ‑ Менск: Беларускі кнігазбор, 2000. ‑ 88 с. ‑ Наклад 500 ас. ISBN 985-6638-04-6

*Апошнія вершы апошняга тысячагодзьдзя дорыць чытачу Артур Вольскі.*

А.Пісьмянкоў. **Я не памру, пакуль люблю**: Выбранае. ‑ Менск: Мастацкая літаратура, 2000. ‑ 319 с. ‑ ("Беларуская паэзія XX ст.") ‑ Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0072-3

*У кнігу, што выйшла ў прэстыжнай сэрыі "Беларуская паэзія XX стагодзьдзя", увайшлі вершы са зборнікаў "Белы камень", "Чытаю зоры", "Пляніда".*

*Прозы жыцьця ў першыя дні сьнежня было менш, не зважаючы на зусім не паэтычнае надвор'е.*

У.Ліпскі. **Аўцюкоўцы**: Аповесьці пра Калінак ды Каласкоў, якія гаруюць і жартуюць; 2-е выд., дапоўненае. ‑ Менск: Бел. выд. тав-ва "Хата", 2000. ‑ 308 с.: іл. ‑ Наклад 5000 ас. ISBN 985-6007-71-4

*Адмыслова для недасьведчаных жарты, досьціпы й гумарэскі зь легендарнае вёскі сабраў, апрацаваў ды выдаў дзіцячы пісьменьнік У.Ліпскі, а прадаюць кнігу за 1,5 т.р.*

Т.Бондар. **Бог зусім побач**. Старонкі зь дзёньніка. ‑ Менск: ВП «Лотаць», 2000. ‑ 288 с. ‑ Наклад 300 ас. ISBN 985-6307-41-4

*Рэдактарка «Всемирной литературы» расказвае пра сустрэчы з Найвышэйшым ‑ пра духоўнасьць у бездухоўным сьвеце.*

Я.Маўр. **У краіне райскай птушкі**: Аповесьці, апавяданьні: Для сярэдняга й старэйшага школьнага веку / Мастак У.Аніська. ‑ Менск: Юнацтва, 2000. ‑ 382 с.: іл. ‑ Наклад 4000 ас. ISBN 985-05-0495-5

*Творы Я.Маўра з канца 1920-х выходзяць шматтысячнымі накладамі й не залежваюцца доўга на паліцах. У новае выданьне ўвайшлі клясычныя "Сын вады", "Чалавек ідзе", "Палескія рабінзоны" ды іншыя аповесьці. Каштуе 500 р. з гакам.*

В.Гурскі. **Хмары над Меншчынай**. Партызанскія згадкі. ‑ Менск: Беллітфонд, 2000. ‑ 380 с. ‑ Наклад 100 ас. ISBN 985-6576-10-5

*Стары беларускі партызан згадвае пра слаўныя гады свае маладосьці.*

*З агульнага шэрагу кніг выпадае хіба толькі самадрук Алега Манаева, выпушчаны дзеля сябе, сяброў і вечнасьці.*

О.Манаев. **Становление гражданского общества в независимой Беларуси**: Социологические опыты: 1991 ‑ 2000. ‑ Менск: Філсэрва-плюс, 2000. ‑ 626 с. ‑ Наклад 1000 ас. ISBN 985-6489-02-4

*Асобна варта таксама вылучыць кніжыцу, што выйшла сёлета найбольшым накладам ‑ 200 тыс. асобнікаў, а прачытаная будзе, напэўна, найменшай колькасьцю людзей.*

**Усеагульная дэклярацыя правоў чалавека**. Дэклярацыя аб праве й абавязку прыватных асоб, груп і органаў грамадзтва заахвочваць ды абараняць агульнапрызнаныя правы чалавека й асноўныя свабоды: Вытворча-практычнае выданьне; Па-беларуску й па-расейску. ‑ Менск: Прадстаўніцтва Арганізацыі Задзіночаных Нацый у Рэспубліцы Беларусі, 2000. ‑ 32 + 32 с. ‑ Наклад 200000 ас. ISBN 1-58712-034-8

**Гэтыя кнігі не апошнія ў 2000 г. Я маю на ўвазе, што выдаўцы, як заўсёды, запозьняцца, і нешта, падрыхтаванае сёлета, застанецца налета. Беларуская кніга жыцьме і ў трэцім тысячагодзьдзі – разам з моваю й краінаю.**

**Віктар Мухін**












# Партрэт стагодзьдзя вачыма мастака

## *Успамінае найстарэйшы беларускі мастак Яўген Ціхановіч*

**Мастак Яўген Ціхановіч – найстарэйшы мастак Беларусі. 25 лістапада яму споўніцца 90 гадоў. Ягоны старэйшы брат – славуты мастак-графік Валянцін Ціхановіч, ягоная жонка Люся – дачка Ўладзіслава Галубка. Яму давялося вучыцца ў сьценах Віцебскага мастацкага тэхнікуму. Ягонымі настаўнікамі й калегамі былі клясыкі эўрапейскага мастацтва. Многія зь іх сталі ахвярамі сталіншчыны, як і цесьць Ціхановіча – Галубок. Іншыя палеглі ў апошнюю вайну. Шмат каго нялітасьцівы лёс раскідаў па сьвеце. Сам Яўген Ціхановіч бярэ ўдзел у мастацкіх выставах ад 1932 г. За гэты час ім створаныя дзясяткі жывапісных палотнаў, сотні графічных работ. Шмат твораў гэтага мастака можна пабачыць у музэях, кнігах, падручніках. Апроч усяго гэтага, Ціхановіч – выдатны мэмуарыст, адзін з апошніх сьведкаў стагодзьдзя, што сышло ў нябыт.**


Яўген Ціхановіч

### ПРА ЯНКУ КУПАЛУ І ПІЛСУДЗКАГА

...Гэта быў пачатак 20-х. Не магу дакладна ўспомніць, калі і дзе я пачуў, як чытае свае вершы Янка Купала. Мабыць, у Доме пісьменьнікаў. Ведаю, Купала ня надта любіў чытаць сам, мабыць, саромеўся, а можа думаў, што артыст гэта зробіць лепш за яго. Ці, хутчэй, і тое і другое разам. Купала наагул не любіў выступаць з прамовамі, бо навошта яму было на людзях выкладаць свае думкі, якія ляцяць у паветра і там губляюцца? Ён не хацеў выходзіць на сцэну, дзе яго сустрэнуць як артыста, пачнуць пляскаць у ладкі, наробяць шуму, а навошта? У той час лічылася, што, калі маеш пастаўлены голас і можаш выступаць з розных нагодаў, ты актывіст, цябе выбіраюць, ты паважаны. Купалу заўсёды запрашалі ў прэзыдыюмы розных сходаў ці вечароў, дзе павінны былі сядзець знакамітыя людзі. Гэта надавала прадстаўнічасьці сходу.

Часьцяком, калі чалавек чуў упершыню вершы ў выкананьні Купалы, яго спасьцігала пэўнае расчараваньне. Манатонны, глухі голас, дый кожнае слова вымаўляецца ня гэтак яскрава, як трэба. Нават сэнс верша ўхапіць было цяжка, заставалася адно разглядаць паэта — як ён стаіць, як трымае рукі, чаму не растаецца са сваім кійком...

...Ад жонкі я ведаю, што Купала любіў слухаць, як яна чытала ягоныя вершы, як выразна гучалі яе словы, пераходзячы ў згукі пачуцьцяў. Сэнс вершаў узрастаў нават ад жэстаў яе рук. Галубок нездарма браў сваю дачку ў менскі Белпэдтэхнікум, каб яна чытала вершы Купалы перад студэнтамі пасьля лекцыі аб тэатры, аб літаратуры ў сцэнічным мастацтве. Быў гэткі выпадак, калі цётка Ўладзя ўзяла да сябе Люсю Галубок на пару дзён, каб Люся вывучыла вершы Купалы пад яе кіраўніцтвам. У гэтым нічога дзіўнага не было, бо Люся яшчэ ня мела досьведу трымацца перад гледачамі. Рэпэтыцыі адбываліся ў Доме I зьезду РСДРП, дзе тады й жыла сям'я Купалы. Цётка Ўладзя як былая настаўніца валодала сакрэтамі падыходу да дзяцей – ёй лёгка было працаваць з таленавітай дзяўчынкаю. Можна толькі сабе ўявіць, як хвалявалася Купаліха за кулісамі ў той вечар прэм'еры. Але ўсё адбылося добра, і маленькая актрыса мела цяпер сваё амплюа.

Вечар той быў прысьвечаны Юзафу Пілсудзкаму, які сядзеў у лёжы гарадзкога тэатру, абапіраючыся на шаблю. Ён пяшчотна глядзеў на маленькую дзяўчынку і праз свае вялікія вусы ўсьміхаўся. Пэўна, падабалася яму маленькая дзяўчынка, што гэтак добра чытала беларускі прывітальны верш ад Купалы. "Гэты вечар, — казала Люся Галубок, — запомніўся мне болей за ўсё, бо той вусаты дзядзька кінуў кветкі да маіх ног, а потым доўгі час людзі пляскалі ў далоні, стоячы. Сотні людзей глядзелі ў тую лёжу, на Пілсудзкага, на ягоных выкшталцоных ад'ютантаў, польскіх ахвіцэраў..."

Казалі, што беларускія ўрадоўцы з БНР сустракалі Пілсудзкага хлебам-сольлю... Тады ніхто ня ведаў, да каго далучаць нашую маленькую дзяржаву. Бо Заходні край, як расейцы называлі нашую Беларусь, ня меў ані ўзброеных злучэньняў, ані дакладных межаў і трывалых юрыдычных правоў... Калі ж націск чырвонага войска ўзмацніўся, Пілсудзкі вымушаны быў адступаць. Польскія войскі па дарозе ўсчынялі гвалты, рабункі й пагромы. Гвалцілі жанчынаў, а сівым жыдам адразалі бароды. Хто толькі не таптаў каваным ботам нашую маці-Беларусь! Немцы, палякі, ізноў немцы. Хто толькі не дзяліў яе на часткі, не абдзіраў то зьлева, то справа. Але найбольш гвалту было за царскай Расеяй, а пасьля й за бальшавіцкім Савецкім Саюзам...

### ПРА АЗГУРА І КОЛАСА

...Заір Азгур быў старэйшы ад мяне толькі на тры гады. Першая наша сустрэча адбылася ў 1929 г. у доме Якуба Коласа. Азгур ляпіў бюст Коласа, а я і мой прыяцель па прафтэхшколе, Шымановіч, фарбавалі дом Коласа звонку і ў сярэдзіне.

У Азгура пасьля сканчэньня Віцебскага мастацкага тэхнікуму бюсты Коласа й Купалы былі першымі дзяржаўнымі замовамі. Ляпіць з натуры Коласа амаль не атрымлівалася, з тае прычыны, што ў пісьменьніка не было часу пазаваць. А таму Азгур абзавёўся вялікай колькасьцю фатаздымкаў клясыка ў розных позах — у профіль, анфас і са згубленага профілю. Гэткі спосаб быў няпростым. Не было станкоў, што круцяцца, на якіх мадэль сядзіць у фатэлі, а скульптар бачыць яе з усіх бакоў.... Зь вялікімі цяжкасьцямі Азгуру й ягоным фарматарам удалося зрабіць толькі адну адліўку (у чорнай форме), дый тую зь вялікай рызыкай – не было ніякага досьведу.

У Менскім гарадзкім тэатры на фасадзе былі дзьве паўкруглыя нішы: зьлева стаяў Пушкін, а справа – Гогаль. Абодва тыя бюсты былі з бронзы. Дык вось, замест Пушкіна паставілі бюст Купалы, а замест Гогаля – бюст Коласа. Праўда, у гіпсавым выкананьні. Толькі з расфарбоўкаю пад бронзу. У тыя часы беларусізацыя ішла ў поўным разгары. Самасьвядомасьць зьяўлялася паўсюль. Толькі вось мароз, сонца, вецер ды дажджы збаёдалі гіпсавыя бюсты. Да таго ж фасад тэатру рэканструявалі тройчы — усё зьмянялася і ўсё забывалася.

Творчая біяграфія Азгура шырылася галоўным чынам у жанры бюстаў дзеячоў культуры мінуўшчыны паводле іхных партрэтаў, а сучасных дзеячоў — ужо і з натуры. Усё ж Азгур займеў і майстэрню, і ўсё абсталяваньне: станкі, асьвятленьне ды іншае. Набліжаліся тыя фатальныя гады (канец 30-х), калі сталінскі тэрор касіў усіх без разбору, асабліва выхоплівалі дзеячоў культуры, навукі, літаратуры... І Азгуру давялося самому разьбіваць гіпсавыя бюсты "ворагаў народу", спаміж якіх быў і гэткі "вораг", як Уладзіслаў Галубок... Адразу ж па вайне разгарнуліся пошукі "касмапалітаў", у ліку якіх галоўным чынам апынуліся дзеячы культуры жыдоўскага паходжаньня. Гэта супала з прыездам у Менск славутага артыста Міхоэлса, які ачольваў камісію па Сталінскіх прэміях. Міхоэлса і ўдзельніка тае камісіі, які яго суправаджаў, забілі ўначы — быццам бы грузавая машына наехала. Гэтак гэбісты інсцэнавалі. Міхоэлсу прыпісваліся сувязі з амэрыканскай "буржуазна-нацыяналістычнай" арганізацыяй "Джойнт" і першым паслом Ізраіля ў СССР Голдай Мэір. Азгуру гэтым разам давялося разьбіваць гіпсавую групу: Міхоэлс трымае на руках немаўля, якое сымбалізуе нараджэньне новае жыдоўскае дзяржавы... Праз пэўны час Азгур наноў зьляпіў партрэт Міхоэлса, ужо па фатаздымках і без усялякіх алегорыяў. Дзякуй Богу, досьвед быў. А вось партрэт Уладзіслава Галубка, першага народнага артыста Беларусі, маэстра гэтак і не сабраўся ўзнавіць. Таму той бюст ня згадваецца ў энцыкляпэдыях. Гэтак і губляюцца ў памяці людзі, незвычайна адораныя ў сваёй творчасьці...


Заір Азгур

А возьмем кампазыцыю помніка Якубу Коласу. Тут зь левага боку Сымон-Музыка зь дзяўчынаю, справа – Дзед Талаш са стрэльбаю й хлопчык, які паказвае пальцам, куды мусіць страляць дзед... Пасярэдзіне кампазыцыі –аграмадная постаць Якуба Коласа сьпінаю да шматлюднай вуліцы Веры Харужай... Паэт нібы падпёр рукою падбародзьдзе, да якога не стае якіх 30 см. Фантаны абапал гэтак і не былі ўведзеныя ў дзеяньне. Сам Азгур завяршыў гэтую натуралістычную кампазыцыю бярозамі. Гэтыя дрэвы хоць неяк скрадваюць сьпіну помніка. Памятаю сваю гутарку з Данілам, сынам Коласа, пра тое, што мастакам і скульптарам гэты мэмарыял Коласу зусім не падабаецца. Даніла мне адказаў, што сам факт стварэньня помніка Коласу на плошчы ягонага імя, ды ў дадатак і вуліца, таксама названая ў гонар Коласа, яго цалкам задавальняюць. А крытыка, маўляў, ад мастакоў і асабліва скульптараў паходзіць ад зайздрасьці: кожны хацеў бы атрымаць такі заказ.



Янка Купала. Кніжны знак, афорт

У Менску засталося яшчэ два помнікі работы Азгура: Дзяржынскаму, які глядзіць у вокны свайго ж ведамства, і лётчыку, Герою Савецкага Саюзу Грыцаўцу. Гэтая манаполія Азгура тлумачылася тым, што ўладам тыя званьні і ўзнагароды, якімі ўганаравалі скульптара, не давалі заўважыць, што ня ўсё падуладна гэтаму творцу.

### ПРА ВАЦЛАВА ІВАНОЎСКАГА

Можна многа чаго распавядаць пра Вацлава Іваноўскага як навукоўца, палітыка, аднаго з пачынальнікаў вызвольнага руху...

Прафэсара Іваноўскага я зблізку бачыў толькі адзін раз, калі ён, як заўжды без аховы, праходзіў па Нізкім завулку, у раёне Нямігі, да прафэсара Лыкоўскага. Лыкоўскі быў галоўным эпідэміёлягам гораду. Іваноўскі заўсёды спакойна й годна хадзіў па ўсім Менску.

Ад 3 лістапада 1941 г., як яго прызначылі бурмістрам Менску, ён шмат зрабіў для ратаваньня людзей ад нямецкіх рэпрэсіяў. Я гэта ведаю. Улетку 1943 г. з ініцыятывы групы прафэсара Іваноўскага было створанае й падпольнае беларускае нацыянальна-дэмакратычнае аб'яднаньне дзеля гуртаваньня сілаў, якія мелі на мэце адбудову беларускае незалежнае дзяржавы па вайне...

7 сьнежня 1943 г. Вацлаў Іваноўскі быў забіты на рагу цяперашніх вуліцаў Нямігі й Камсамольскай. Іваноўскі, як заўжды, без аховы ехаў на фурманцы. Ролю ахоўніка й выконваў фурман. Некалькі чалавек жалезнымі прутамі забілі іх абодвух, Іваноўскага з фурманам. Прутамі – каб не было чуваць стрэлаў. Хто гэта зрабіў, невядома было ні тады, ні цяпер. Магчыма, забойства было ўчыненае са згоды гаўляйтара фон Готбэрга. Але тады ўсе забойствы валілі на партызанаў, і, каб гэтак выглядала, Іваноўскаму як бурмістру немцы зрабілі шыкоўнае пахаваньне на Кальварыі. Так ня стала вялікага чалавека. Было яму толькі 62 гады...

Прафэсара Лыкоўскага я ведаў даволі добра. Ён, пэўна, меркаваў, што мая сям'я мае сувязі з партызанамі... Колькі разоў ён нам дапамагаў. Яго, прафэсара мэдыцыны, закатавалі "сталінскія сокалы" на Валадарцы. Разам з тымі, хто "працаваў на немцаў"...

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПАРТРЭТА

Гэта было 3 чэрвеня 1997 г., калі Дзяржаўнаму мастацкаму музэю было адмоўлена ў набыцьці партрэта мастака Антона Каржанеўскага ў маім выкананьні. Прычынаю сталася тое, што Каржанеўскі ў гады апошняе вайны знаходзіўся ў акупаваным Менску і немцы ўзнагародзілі яго мэдалём. Гэтак гаворыцца ў выпісцы з пратаколу паседжаньня мастацкае экспэртнае рады. Пратакол падпісаў старшыня рады сп.Гедройць. Адразу скажу, што экспэртная рада мусіла разглядаць мастацкую вартасьць твору. У гэтым сэнсе ён выкананы на высокім узроўні, бо інакш музэй і не прапанаваў бы гэтага закупу.

Тое, што рада занялася справаю КДБ на прапанову мастака Грамыкі і што менавіта ад яго й сыходзіла прапанова забараніць гэтае набыцьцё, дзівіць...

Гэты партрэт быў напісаны ў 1940 г. для выставы на "Дэкадзе літаратуры й мастацтва" ў Маскве. Гэта па-першае. А па-другое, у чым віна Каржанеўскага?

Дзясяткі мільёнаў чалавек, што апынуліся на акупаваных немцамі тэрыторыях, былі закладнікамі. Хто ж вінаваты ў гэткім лёсе?

Мне было тады 30 гадоў, як камуністы ўцякалі зь Менску на дзяржаўных машынах, як у паніцы пакідалі ўсё немцам. Пакінулі й будынкі ЦК КПБ, Дому ўраду й нават НКВД. Не спалілі ані архіваў, ані дакумэнтаў, ані сьпісаў. Для гестапа "карты ў рукі". За немцамі пачаліся адразу ж арышты, вобшукі, расстрэлы. Разам з тым немцы актывізавалі работу па прыцягненьні беларускае інтэлігэнцыі ў палітыку. Мастакам давалі працу ў газэтах, мастацкіх майстэрнях, у нагляднай агітацыі. Было нават дзьве мастацкія выставы...

Жонка Каржанеўскага да вайны працавала ў Вярхоўным Савеце БССР, была ў кампартыі і ў часе вайны эвакуявалася. Па вайне ёй прапанавалі выбар – развод з мужам альбо "членства ў КПСС". Яна абрала сям'ю – мужа і сына, які ўсю вайну прабыў з бацькам.

Бадай, я адзіны застаўся жывы, хто можа апавядаць у друку пра жыцьцё інтэлігэнцыі ў часы нямецкае акупацыі.

Вось што было на самой справе... Усе мастакі, якія апынуліся пад акупацыяй, мусілі стаць на ўлік ва Ўправе, што выдавала мастакам (а таксама пісьменьнікам і артыстам) даведку, зь якой раз на тыдзень ён павінен быў зьяўляцца ў аддзел мастацтва, каб засьведчыць, што ячшэ жывы. Намесьнікам загадчыка Дому мастацтва быў мастак Мікола Дучыц, а загадчыкам — Ільінскі (колішні журналіст), родны брат народнага артыста СССР. І, натуральна, па-над усімі аддзеламі ўправы быў немец (гэтак званы шэф). Дык вось, гэтыя шэфы змушалі мастакоў браць удзел у выставе, што мусіла адбыцца ў памяшканьні Опэры, пры ўмове, што кожны прынясе ня менш як 3 работы на вольныя тэмы... Я асабіста даў эцюд партрэта жонкі, краявід і нацюрморт. Тутака й Каржанеўскі просіць мяне зірнуць на тое, што ён прынес Дучыцу. "Многа, замнога,— кажу я. — Знайшоў час выстаўляцца ў такім аб'ёме". А ён у адказ: "Вы на Дэкадзе ў Маскве бралі ўдзел у выставах. А я ў той час служыў у войску. І вось толькі цяпер ёсьць магчымасьць паказаць свае творы". Карацей кажучы, не паслухаў ён маіх парадаў, выставіў больш за 40 малюнкаў алоўкам, былі й акварэлі, але не было ніякіх тэматычных кампазыцыяў. Заняў сваімі творамі невялікі пакойчык у тэатры, толькі колькасьць ягоных твораў вылучала яго сярод іншых мастакоў. Але калі мы йзноў сустрэліся каля кінатэатру, ён мне кажа: "Ня ведаю, Жэня, ці цешыцца мне, ці плакаць...". — "А што здарылася?" — пытаюся ў яго. — "Немцы ўзнагародзілі мяне "Мэдалём для Ўсходу" за актыўны ўдзел у выстаўцы..." — "А што ты пасьля скажаш? Плач", — кажу.



Партрэт Антона Каржанеўскага. Палатно, алей.

Гэтак яно й выйшла пасьля. Выслалі яго на 10 гадоў, а пасьля забаранілі жыць у сталіцы. Знайшліся людзі, сярод іх і мастак Яўген Мікалаеў зь Віцебску, якія ўсё жыцьцё не давалі Каржанеўскаму ходу ў мастацтве. Нават юбілейнай выставы той Мікалаеў не дазваляў зрабіць. Хоць Антон Каржанеўскі заставаўся сябром Саюзу мастакоў.

Мікалаеў быў "членам Віцебскага гаркаму партыі". Гэтая акалічнасьць вельмі спрыяла яму ў мастакоўскай кар'еры. Ён за кароткі час атрымаў ганаровае званьне заслужанага дзеяча мастацтваў, а пасьля й народнага мастака БССР. Каржанеўскі быў зьвярнуўся да праўленьня Саюзу мастакоў з просьбаю дазволіць зрабіць выставу ў Менску, але й тут Віцебскі гаркам выступіў з пратэстам. Тая забарона дзейнічала да самое сьмерці Каржанеўскага. Дзейнічала й пасьмяротна.

Так мэдаль мастака крочыў зь ім побач, як нейкае таўро. Хоць ягоныя палотны выстаўляліся побач з творамі таго ж Грамыкі, Савіцкага, Уродніча. Ягонае імя ёсьць і ў энцыкляпэдыях. Ну, а што з тым маім партрэтам? Я напісаў ліст у Міністэрства культуры. Адказу не дастаў. А новы дырэктар Мастацкага музэю спасылаецца на тое, што грошай няма на гэткія партрэты. Я паказаў той партрэт Антона Каржанеўскага на выставе "Бацькі і дзеці" на пачатку 2000 г. Гледачы ўспрынялі яго добра.

**Падрыхтаваў да друку Сяргей Харэўскі**

**«Наша Ніва» спачувае Яўгену Ціхановічу, у якога памёр сын Генрых, таксама мастак. Сьветлая памяць!**

## Энцыкляпэдыя беларускага замежжа

*У 1993-м пачалася праца над энцыкляпэдычным даведнікам "Беларускае замежжа". Быў распрацаваны праект слоўніка, абраная творчая група. Выдавецтва "Беларуская энцыкляпэдыя" бралася за ажыцьцяўленьне ўнікальнага праекту. Ішоў збор артыкулаў, дакумэнтаў, фатаздымкаў... Але такія пошукі не зьдзяйсьняюцца за якія пайгода —год. І яны не завяршыліся. Перашкодаю стаў рэжым зь яго антыбеларускаю душой. Энцыкляпэдыю "зарэзалі".*

*Гэта не адзінкавы сумны факт у беларускім кнігавыданьні. Лёс энцыкляпэдыі падзялілі дзясяткі іншых ненадрукаваных кніг.*

*Многія фатаздымкі, зробленыя Анатолем Клешчуком, занялі б сваё месца на старонках энцыкляпэдыі.*

*Здымкі зробленыя ў розныя часы і ў розных краінах, дзе фатограф сустракаў сваіх землякоў. Зь сёньняшняга нумару "Наша Ніва" пачынае друкаваньне старонак забароненай энцыкляпэдыі.*

**Фота Анатоля Клешчука.**






Ірэна Каляда-Сьмірнова (ЗША)



Кастусь Калоша (ЗША)



Юрка Рапэцкі (Канада)

# Ніва, поўная каласоў

Людка Сільнова

Героі і ўвасобленыя духі продкаў жывуць побач з намі. Але мы рэдка заўважаем іх.

15 кастрычніка 2000 году закончыла свой зямны шлях мая вясковая бабуля. Звалі яе Ядзьвіга Сяліцкая, у дзявоцтве Язьневіч, па матчынай лініі была Фарына. Фарына — старадаўняе італьянскае прозьвішча, якое ў перакладзе азначае "мукА". Паводле сямейнага паданьня, майго далёкага італьянскага продка занесла 200 гадоў таму ў Літву. Зараз некаторыя вымаўляюць і пішуць гэтае італьянскае прозьвішча як Фарыно, з націскам на апошні склад, па-французску, у той час як правільна было і ёсьць менавіта з націскам на перадапошні: Фарына.

Я напісала "па матчынай лініі", гэта значыць — па дзявочым прозьвішчы сваёй маці, хаця ў нас афіцыйна і не прынятая такая генэалёгія. Але, дзеля паўнаты ісьціны, было б добра, каб яна існавала — *гінэалёгія* як навука пра слаўных жанчын; а ня толькі навука пра той мужчынскі геній, які перадаецца, нібы паходня, паміж мужчынамі з пакаленьня ў пакаленьне (толькі ня кожны воін здольны яе ўтрымаць ці хаця б трымаць доўга — з розных прычын).

Нарадзілася Ядзьвіга 28 кастрычніка 1909 г. у вёсцы Вузьляны Вялейскага пав. Віленскай губ., у сям'і Яна Язьневіча, які быў — я ўведала гэта толькі цяпер, на пахаваньні, — вайскоўцам. Цікава, што гэтае містычнае "Йа!" на пачатку ўласных іменаў яе і бацькі двойчы супадаюць: Ядзьвіга Язьневіч і Ян Язьневіч. Дасьледуючы апошнім часам старадаўнюю "рускую" культуру ўсходняе Прыбалтыкі, я заўважыла, што своеасаблівым ключом да яе разуменьня служаць словы "яры", "яркі", "баярын". Культурна важныя і іншыя словы на "я": "я", "яблыня", "ява", "явар", "Ягамосьць", "ягня", "ядловец", "яднаньне", "ядро", "яйка", "язьмін", "язык", "як", "якасны", "яліна", "япрук", "ярына" і "ярыца", "ясень", "ясны", "ястраб", "яшчэ"... "Я" тут — нейкае архаічнае зерне ці яйка, зь якога вырастае і паўстае канкрэтны сэнс слова. Нешта падобнае і на лаціне, і па-ангельску: *"I"* ("я"), *"ego"* і *"egg"* ("я" і "яйка"). Бо сапраўды, Я *(Ego)* — гэта першапачатковае яйка душы, ядро, вакол якога будуецца касьмічны сьвет асобы. Ангельскае *I* і беларускае Я дыялектычна дапаўняюць адно другое, як левы і правы бакі. "Ай!" — зьдзіўленьне і ломка пачуцьцяў. "Йа!" — гучыць як баявы крык ці выклік.

Ох ужо гэтыя бацькавыя дочкі! Князь Рагвалод і Рагнеда! Ксавэры Плятэр і Эмілія! Аляксандар Ельскі і Аляксандра! Міхал Станюта і Стэфанія! Тодар Кляшторны і Тацяна! Алесь Яскевіч і Алена!.. Іх паважаюць і любяць. Часта іхнія імёны падобныя (амаль прыкмета!). Нібыта разам з гукавым падабенствам імені бацька перадае дачцэ і часьціну духоўнага агню са сваёй паходні. (А там — гук сам робіць сваю справу, прасякаючы аддадзеную матэрыю...)

У 16-гадовым веку Ядзьвіга Язьневіч узяла шлюб зь Янам Сяліцкім, працалюбным селянінам, і нарадзіла ад яго дзевяць дзяцей. Чацьвёра зь іх памерлі немаўляткамі або малымі. Пяцёра дажылі да сталага веку: Эдуард, Іван, Рэгіна, Соф'я і Ганна (Іван і Соф'я былі ў дзяцінстве Янусем і Зосяй, пакуль бальшавікі, пасьля далучэньня Заходняй Беларусі да БССР, іхнія "падазроныя" імёны не запісалі ў пашпарты па-расейску). Соф'я — гэта мая маці.

Дый сама мая бабуля паходзіла зь сям'і, дзе гэтаксама расло шмат дзяцей. І ўсе — з царскімі а ці каралеўскімі імёнамі: Станіслаў, Пётра, Ганна, Марыя, Рэгіна... Гэткімі ж імёнамі яна пасьля называла і сваіх дачок і сыноў. (Успамінаю, што ў маёй бабулі Ядзі — якой я яе ведала! — наагул любімым словам было "гэткі", а яшчэ "гэтак". Кансэрватыўная ты, жаночая служба-роля вартаўніцы і ахоўніцы назапашанага, спрадвечнага, запаветнага!) Мая бабуля ўмела выпякаць у печы вялікія круглыя хлябы зь мёдам, на дубовых лістах. Цяпер падобны хлеб я купляю ў менскай краме, ён завецца "Нарачанскім" і лічыцца сьвяточным, "цар-хлебам".



Сяліцкія жылі да другой сусьветнай вайны нябедна, хутарам на ўскрайку лесу, непадалёк ад сучаснай вёскі Паляны Вялейскага раёну (цяпер хутару, як і Вузьлянаў, не існуе). У XIX і часткі XX ст. гэтыя землі былі ўласнасьцю паноў Казлоўскіх. Так мне некалькі гадоў таму напісаў у лісьце польскі этнограф Францішак Сяліцкі з Уроцлава, мяркую, далёкая наша радня, бо паходжаньнем з нашых мясьцінаў, якія, мяркуючы па зьмесьце ягоных навуковых прац, пакінулі ў маладога чалавека яркія, незабыўныя ўражаньні на ўсё жыцьцё.

Пасьля вайны, заўдавеўшы, Ядзьвіга сама пападымала дзяцей, перажыўшы жахі калектывізацыі і разбурэньне хутарскіх гаспадарак. Дала дзецям сякую-такую адукацыю. Асабліва старалася для малодшых. Іван стаў шафёрам, а Ганна — бухгальтарам. Дзьве дачкі зь пяцёх яе дзяцей сталі гараджанкамі (сярод іх — мая маці Соф'я, якая ўсё жыцьцё прарабіла ўва ўстановах Маладэчанскага вузла сувязі тэлефоннай сувязісткай). Любімы сын Эдуард пераехаў у Латвію, на хутар да сваякоў сваёй маладой жонкі.

Пяцёра дзяцей Ядзьвігі Сяліцкай нарадзілі ёй 11 унукаў, а тыя нарадзілі 20 праўнукаў: Ільля, Георгі, Аляксандар, Караліна, Юлія...

Я ехала, успамінаючы іх, у легкавым аўтамабілі па чорнай, нібыта скрушнай, асфальтавай дарозе, на поўнач ад Вялейкі. А паабапал яе гарэлі восеньскім агнём залатыя лісты старых прыдарожных ахоўных дрэваў.

Я ехала на пахаваньне бабулі.

Праехаўшы праз вёску з прамяністай, агнёвай назваю — Жары, мы хутка апынуліся ў Палянах.

Яна ляжала ў дамавіне, прыгожая і суровая, у доўгай карычневай ("як Зямля...") сукні і сіняй хустцы ("як Неба..."). Колер хусткі быў глыбокі, таемны, містычна сіні, з рэдкімі бліскаўкамі серабрыстай ніткі — люрэксу.

Мая маці расказала, што шмат гадоў таму бабуля загадала на сьмерць ёй сшыць менавіта карычневую сукню з глыбокімі вэртыкальнымі складкамі ўздоўж цела. Яна ляжала цяпер у ёй, як восеньская ніва ці ральля, з прыўзьнятай на падушцы галавою ў сіняй-сіняй хустцы... З васковым, жоўта-залатым тварам, падобным да сонца. Рысы твару — завостраныя, як у суровага воіна. І ў іх я не пазнавала ранейшай бабулі. Як быццам пасьля сьмерці адкрылася яе канчатковае (і першапачатковае!), існае аблічча. Схаванае раней за добрым, круглым тварам.

Як сапраўдная прадстаўніца суворай Паўночнай культурнай традыцыі, яна любіла вэртыкаль і вэртыкальныя рысы; і сама вытварала іх. Гэты быў канал сувязі зь Небам, ягонымі старажытнымі багамі і героямі. Яна ткала посьцілкі — розныя! — але ейнымі любімымі і "фірмовымі" былі халодна-зялёныя, у малінавыя вэртыкальныя палосы, з тонкімі дадатковымі рысачкамі жоўтага, фіялетавага і чорнага. Яны былі падобныя да Паўночнага зьзяньня! Усё жыцьцё яна насіла белую, як глядзець на твар сьпераду, вэртыкальную рыску на галаве над ілбом — прамы серадзінны прабор у цёмных валасах (пасівела бабуля позна). На адзеньні яна любіла таксама мець вэртыкальныя дэталі: складкі, зашчыпы, засьцежкі, "маланкі". Дастаткова паглядзець на рэдкія яе фатаграфіі, што захаваліся, каб пераканацца ў гэтым... Яна любіла жаночае рукадзельле! Нават у 70-х і 80-х гадох шыла і перашывала ўручную адзеньне, вязала нам шкарпэткі і рукавіцы, таксама паласатыя, мэлянжавыя — як Паўночнае зьзяньне.

Яна любіла яшчэ дрэвы (і ўсё драўлянае) і расьлінны сьвет. На фатаграфіях даўнейшых часоў у яе ў руках абавязкова можна заўважыць некалькі галінак ці кветак. Асабліва падабаліся ёй гордыя вяргіні. "Вяргіні-княгіні"... Любоў да дрэваў — ядро тайнага вучэньня друідаў, якіх таксама адносяць да Паўночнай (нават Арктычнай) культурнай традыцыі, што аб'ядноўвала дахрысьціянскія народы земляў, прылеглых да Паўночнага і Балтыйскага мораў. Дарэчы, вэртыкальная рысачка нагадвае сваім выглядам напісаньне (на дрэве ці камені, калі гаварыць пра даўніну) руны Іса. Яна — сымбаль... *Я* і першапачатковага Лёду. Культ руны Іса — гэта культ вэртыкальнага каналу ад чалавека да нябеснага Духу, ад чалавека да Творцы. Цікавае супадзеньне: Іса — адно з гістарычных імёнаў Ісуса Хрыста!.. Цяпер больш зразумелая і фундамэнтальнасьць ангельскага *"I"* ("я"). Наагул асновы сучаснай заходняй цывілізацыі.

Яшчэ мая бабуля любіла мёд, паэзію і рэлігійныя канты на польскай мове... І ў той жа час умела рабіць усю сялянскую працу, быць гаспадыняю — у доме, у садзе і ў полі.

...Цяпер яе працавітыя рукі былі складзеныя на грудзях і трымалі абразок зь белай сурвэткаю. Я сядзела зусім побач, думала-глядзела і нібы найсур'ёзным чынам размаўляла зь ёю. Так — упершыню.

У яе былі доўгія і прыгожыя пальцы з чыстымі, авальнымі, выпуклымі пазногцямі, як у арыстакратак ці ў маладых жанчын. "Паглядзіце, якія ў нашай мамы прыгожыя рукі! — зьвярнула ўвагу адна дачка. — У нас ня гэткія..." — "Як у антычных скульптур ці на абразах", — падумала я. Пасьля мне многія знаёмыя жанчыны казалі падчас майго аповеду пра гэтае містычнае пахаваньне, што ўва ўсіх старых жанчын, якія перад сьмерцю гатавалі ежу, мылі посуд, пралі адзежу, даглядалі грады, — такія ж чыстыя, гладкія, прыгожыя пальцы. Аднак мне здаецца, што пальцы такой клясычнай "антычнай формы" маглі быць толькі ў маёй бабулі Ядзьвігі.

Паступова яна станавілася нашай і маёй гераінёю... Нават Гераінёю зь вялікай літары.

Дамавіна яе, помню, была з натуральнага, не прыхарошанага нічым дрэва — нефарбаваных і нелакаваных дошак, нічым не падбітых. Але гэтая матэрыяльная строгасьць толькі падкрэслівала суровую ўрачыстасьць моманту, надавала вайсковы дух; а аголенае дрэва (з тонкімі карычневымі разводамі) было нібы адпрыродным духам-праваднікам, апошнім чаўном героя, які мы зараз адштурхнем ад берагу, і ён адплыве ад нас у мора Вечнасьці "па рацэ нашай памяці"...

У куце пакою, дзе ляжала памерлая, на століку гарэлі па чарзе вялікія, тоўстыя васковыя сьвечкі амаль гэткага сама карычневага колеру. Яна перад сьмерцю загадала, каб былі менавіта такія: старадаўнія, тутэйшыя. Калісьці ў іх на хутары (а тут вымаўлялі "на футары", што нагадвала мне заўсёды ахоўны "футарал" і Футарк) быў добры пчальнік, і гаспадар Ян Сяліцкі займаўся традыцыйным для гэтых паўночных мясьцінаў пчалярствам.

Насунулася ноч. Вокны ў доме засталіся незавешаныя. Былі завешаныя толькі люстэркі: каб у іх не зазірала і не засталася душа нябожчыцы.

За квадратным сталом, пакрытым белым абрусам, сядзелі пажылыя жанчыны-сьпявачкі ("плакальшчыцы"? Я б не сказала!), прывезеныя з розных вёсак на пахаваньне кімсьці клапатлівым з нашай радні. Два дні яны сьпявалі песьні з кантычак, прычым вельмі прыгожа, далікатна і чыста, на два галасы, — і ўсё папольску. Зрабіць гэтак таксама загадала бабуля. Яна была каталічкаю, выхаванай на традыцыях даўнейшага польскамоўнага касьцёлу ў Беларусі... Бабулі-сьпявачкі добра ведалі адна адну і разумелі з паўслова. На мой погляд, гэта было нейкае прафэсійнае сястрынства. Пяюхі-каталічкі, яны сядзелі за квадратным сталом літарай "П", адкрытай у бок нябожчыцы. Хаця хусткі на іх, як заўважыла мая маці, былі ўсе рускія, паўлапасадзкія, стракатыя, у вялікія сінія і чырвоныя кветы на чорным фоне. Толькі ў ваднэй была на галаве аднатонная блакітная хустачка зь серабрыстым люрэксам: у наймалодшай. І амаль усе яны сядзелі ў акулярах... На стале перад імі стаялі апэльсыны, печыва, салодкая вада. І пялі касьцёльныя сяброўкі ўсё псальмы пра Палестыну, Ярдан і Бэтлеем. Як быццам адтуль — душа маёй памерлай бабулі. Так, там, у антычным Міжземнамор'і, яе духоўная і, напэўна, фізычная — на генным узроўні — радзіма.

Радні, асабліва жанчын у чорных карунках, было шмат. Успаміналі тых, хто жыве ў Прыбалтыцы і ня змог хутка аформіць патрэбныя дакумэнты, каб прыехаць.

Гаварылі пра тое, што бабуля не дажыла да свайго 91-га дня нараджэньня ўсяго 2 тыдні і пражыла на некалькі гадоў менш, чым яе маці Юстына, дачка Казімера Фарыны. Зноў "каралеўскія" імёны!.. А дзядзька, якога на маім дзяцінстве звалі незразумела і архаічна-боскастрашна "Пранук", быў па пашпарце, як аказалася, Францыскам. Стрыечны брат Рэнусь, сын цёткі Рэгіны, — Рамуальдам (а не Раманам, як мы зь сястрой думалі). Ну проста рыцарскі раман!..

Душа бабулі Ядзьвігі, як казалі, доўга не хацела разьвітвацца з састарэлым целам. І ўсё ніяк не пакідала яго, хоць бабуля ў апошнія тыдні вельмі пакутавала ад фізычнага болю і ўсё прасіла ў Бога канца-паратунку. Бабуля заставалася пры ясным розуме амаль да канца. У апошні дзень, кажуць, зірнула на ўключаны тэлевізар, што стаяў побач, — а там мільганулі кадры гульні ў хакей. І кажа: "І наш прэзыдэнт гуляе... Сорамна глядзець, як быццам няма чаго іншага яму рабіць!..". Але падступаў боль, і ўсё ёй здавалася, што гарыць яна ў агні, і прасіла: "Піць!". Паілі яе апошнія дні з лыжачкі. Цела было слабое, а сэрца — магутнае, яшчэ працаваць хацела.

Кажуць, што цела — гэта конь, а дух чалавека — вершнік. Ніяк дух не хацеў свайго вернага каня, свайго вернага сябра пакідаць.

У першы вечар я выпадковым рухам зьдзерла невялікую засохлую ранку на сваім твары. Буйной кropляй выступіла кроў. Я выцірала яе белай хусьцінкай, асьцярожна прыкладаючы. Раптам мне стала зразумела, што я фізычна адкрылася бабулінаму духу, які, як кажуць, лунае над целам некаторы пэрыяд пасьля сьмерці. Ён мог увайсьці ў мяне праз гэты адкрыты крывяносны сасуд! Мне стала страшна і спакойна адначасова. Я думала: "Ну чаму менавіта цяпер я кранулася гэтае ранкі і разьдзерла яе?!.. Што ж, бабулін дух увойдзе ў мяне і супакоіцца. І я стану моцнай і мудрай, як яна..." Пачуцьцё абранасьці і годнасьці напаўняла мяне... Гэта было падобна да воінскага прысьвячэньня. Бабуля перадавала мне свой нябачны меч духу.

Дарэчы, калі я зьбіралася ў Менску на яе пахаваньне, мне чамусьці захацелася надзець сьветла-карыч-

невую сукню, якую насіла калісьці мая іншая бабуля — па бацьку, якая памерла 15 гадоў таму. А яе сьвяточную сукню аддаў мне неяк тата, і я яе, вялікую і зручную, шанавала і любіла насіць (крыху перарабіўшы). Цяпер як бы дзьве мае бабулі сустрэліся ў маёй асобе, Ядзьвіга і яе свацьця. Тая таксама была віленчанкаю... Дзьве культурныя вясковыя гаспадыні. Можа, яны ці іх бацькі трымалі ў руках віленскую "Нашу Ніву", падумалася мне.

Неўзабаве мне прапанавалі частку ночы правесьці ў іншай хаце, дзе калісьці жыла бабуля Ядзьвіга і куды я прыяжджала ў дзяцінстве на канікулы, — у дзядзькі Івана. Я некалі чула, што бабуля гадоў 15 таму, пасварыўшыся зь нявесткаю і сынам, перайшла жыць на другую вуліцу Палянаў, у дом сваёй старэйшай дачкі, і туды больш ніколі не варочалася, нават не зазірала, крыўдуючы (і сапраўды: "Гонар маю!.."). І вось цяпер як бы ў маім абліччы яна йшла туды на містычнае апошняе разьвітаньне, перад тым як легчы ў зямлю... Гэтыя людзі вельмі добра мяне ў тую ноч дагледзелі, паклапаціліся пра кожную пабытовую дробязь, як бы выбачаючыся перад бабуляю.

Цікава, што на белым абрусе стала пасярод іхняй сьвятліцы ляжала газэта з чырвонымі літарамі знаёмай назвы "Народная воля" (чаму я моцна зьдзівілася: ідзе сюды? у глухія Паляны, што напалову вымерлі і ўздоўж вуліцы то тут, то там зеўраюць дзіркі ад зьвезеных дамоў — нібы выпалі зубы на старэчай сківіцы).

Раніцай на разьвітаньне я дала гаспадыні пацалунак у шчаку (нечакана для мяне самой) — і ўсьміхнулася ёй. Яна ўсьміхнулася мне... Пацалунак як прымірэньне? Але, кажуць, бабуля да сьмерці не хацела ёй прабачыць... А — пасьля?..

І якія тут гожыя імёны ў людзей — суседзяў маёй бабулі! Чэсь, Гжэсь, Франя, Лёня (жанчына)... Хоць самі яны — невялікага росту, дробныя, не падобныя да Герояў.

З гастранамічных прыхільнасьцяў бабулі Ядзі: яна любіла, каб гарбата і суп падаваліся вельмі гарачымі, ледзь ня варам. І глядзець, як падымаецца над посудам уверх празрыстая пара... Любіла мёд, і не ўжывала буракоў (чамусьці грэбавала).

...Надвор'е ў тыя скрушныя дні было пахмурнае. Нібыта й прырода нам спачувала. Хмары віселі нізка. У сярэдзіне дня, як труну выносілі з хаты, вецер раптоўна разагнаў хмары, і неба разьясьнілася. Зрабілася адразу цёпла і лагодна. Сонца моцна блішчэла, асьвятляючы жаўціню восеньскіх дрэваў, якія падаліся мне ў той час залатымі.

Мы рушылі да дарогі на клады. Пад нагамі таксама шапацела залата лісьця. ("Дзе Неба? Дзе Зямля?.. Што ўверсе, тое і ўнізе", — успомніла я старажытны запаветны выраз.) Дарога вяла цераз поле. Непадалёк ад яе пасьвіліся коні, гэтаксама асьветленыя незвычайным сонцам. Яны заіржалі, калі мы павольна праяжджалі міма, нібы таксама па-свойму тужылі. Коні праводзілі каня — мне ўспомнілася тое параўнаньне: цела — толькі наш верны конь, а дух — вершнік.

Пахаваць бабуля сябе наказала ня зьлева ад свайго мужа, а справа, побач з малымі сваімі дзецьмі. Атрымалася, што вось яны ляжаць: Ядзьвіга, Ян і памерлыя ў дзяцінстве дзеці між імі. Так яна захацела... Яма была глыбокая, з залатога пяску, асьветленага тым жа неадступным сонцам. Мы стрымана разьвіталіся. Бярозавае бярвеньне дапамагло апусьціць дамавіну ўніз.



Дамавіна — трэці дом чалавека. Першы — мацярынскае ўлоньне, другі — хата (ці замак, сядзіба, кватэра...), а трэці — дамавіна-труна. Дамавіна — найвялікшы дом, як відаць з празрыстай будовы слова. "Магіла герояў — увесь Сусьвет", — прамовіў у антычныя часы Пэрыкл.

На труну кінулі бел-сіне-пурпуровае пакрывала ("як воінскі сьцяг паўночнае дружыны!" — мільганула ў мяне). Барвовы і пурпуровы былі любімыя бабуліны колеры. Гэткімі ў асноўным былі і кветкі, якія шчыльна пакрылі высокі грудок.

Назад частку дарогі ішлі пешшу. Навокал былі шырокія, роўныя, вольныя ад нівы палі. Рыса далягляду выяўлялася дзесьці далёка, у блакітнай дымцы. Пакуль нас не падабралі сваякі-мужчыны на машынах, уся прастора адчувалася нейкай агульнай круглай сфэрай: разам Зямля і Неба, туды і назад, левы і правы бакі... Было адчуваньне *містэрыі*, якая разгортвалася па ўсіх канонах гэтага мастацтва.

У хаце нас чакала жалобная вячэра, сучасныя і старадаўнія стравы: малочнае макавае мачаньне з абаранкамі, густы, цьвёрды кісель — разам як металягічны вобраз адвечнай ракі жыцьця, "малочныя рэкі, кісельныя берагі"... Гэты прыгожы вобраз — своеасаблівы ліст продкаў да сучасных біяхімікаў, што вывучаюць гісторыю ўзьнікненьня жыцьця на Зямлі. Страва — рытуальная ежа, якая гатавалася, калі род цярпеў страсьці (пакуты), каб стравіць усіх і разам выступіць супраць гора, ворага, перамагчы яго.

"Усе просьбы выканалі, акрамя адной: ня плакаць!" — гаварыла мне, як вінавацілася, ледзь чутным шэптам маці, якая страціла голас у гэтыя халодныя скрушныя дні. А я, ня ведаўшы папярэдне, выканала й яе! У дні пахаваньня мне хацелася ўсім сказаць: "Гэта толькі цела, нібыта конь... Дух бабулі, цяпер яшчэ больш магутны і ўсюдыісны, — застаецца з намі!.. Душа — несьмяротная..." І я некаторым гаварыла гэта, спрабуючы супакоіць.

Ядзьвіга Сяліцкая пражыла поўныя 90 гадоў і памерла як гераіня, годна вытрымаўшы ўсе выпрабаваньні лёсу і зьберагшы для нашчадкаў асноўныя знакі той, нардычнай, запаветнай, халоднай беларускай культуры, культуры паўмітычнай Белай Русі. Акрамя вызначаных вышэй знакаў, вось яшчэ адзін: усё жыцьцё яна пляла сабе дзьве доўгія, на паўночны манер, касы, у шлюбе і пазьней хаваючы іх пад стужкамі ззаду на шыі. (Успомніце партрэт маладой Стэфаніі Станюты зь дзьвюма вэртыкальнымі лініямі косаў са стужкамі на канцах... Вось яно, наша, спаконвечнае!)

І яшчэ. Асабістае... Толькі цяпер, праз месяц і колькі дзён я зразумела, што сваёй "трапнай" сьмерцю, сьмерцю-подзьвігам бабуля Ядзьвіга хацела нібыта засьцерагчы мяне ад бліжэйшага знаёмства з мужчынам, зь якім я пазнаёмілася за некалькі дзён да яе сьмерці, а то й выратаваць. У дзень, прызначаны для нашага спатканьня, я была ўжо далёка ад Менску — на яе гераічным пахаваньні... А як паказаў час, мужчына аказаўся з тых, хто бяз сораму і з асалодай называе сябе Антыгероем. Пасьля некалькіх драматычных выпадкаў, узяўшы пад увагу і "бабуліну вестку", я разьвіталася зь ім.

...Павінен быў нехта прачытаць гэты Тэкст, праяўлены праз містэрыю пахаваньня маёй бабулі. І я — прачытала... "Зорка зорцы голас падае", — як сказаў патомак шатляндзкага роду Лярмонтаў. Нібыта паходнямі асьвятлілі вялікую каменную залю замку — Замкнёную гісторыю Беларусі. Можна сказаць і па-іншаму: я ўбачыла ніву, поўную моцных, дасьпелых каласоў, што імкнуцца сваімі тонкімі вэртыкальнымі вусамі і сьцяблінамі ўверх, да Неба "пад сярпом тваім", Сьмерць...

...Мая бабуля Ядзьвіга памерла глыбокай восеньню. Наперадзе яе чакала Белае бязмоўе — Вечная Зіма.

**Кастрычнік—лістапад 2000**



## лісты ў рэдакцыю

### НЕМАГЧЫМА ЧАКАЦЬ

Ужо стаўся гісторыяй канцэрт, што адбыўся ў Магілёве 20 лістапада. Падзея была доўгачаканая. Улады больш за пяць гадоў баранілі магілёўцаў ад сустрэчы з самым папулярным айчынным рок-гуртам – "NRM". Таму нават першыя пагалоскі пра тое, што ў горадзе адбудзецца прэзэнтацыя новага альбому "NRM", выклікалі ажыятаж, і ня толькі ў моладзевым асяродку. Рэклямы хапала, танныя квіткі былі раскупленыя ўмэнт, на канцэрт зьбіраліся сем'ямі. І толькі нейкая няпэўная засьцярога сядзела недзе ў душы – вельмі доўга чакалі мы гэтага канцэрту.

Моладзь, што разыходзілася пасьля канцэрту зь песьнямі, ня ведала, што з гэтага моманту КДБ ужо заняўся разглядам новае справы.

Яшчэ падчас канцэрту чатыры супрацоўнікі Камітэту разьбіраліся з арганізатарамі ў асобным пакойчыку. Дырэктару Палацу піянэраў тут жа выпісалі позву на заўтра (на 7-ю раніцы). Распаўсюдніка касэтаў арыштавалі. А астатніх доўга ўшчувалі за тое, што займаюцца непажаданай справай. Што ж зрабілі гэтыя людзі? З-за чаго аказалі ім такі гонар – прыцягнулі сілы такой сур'ёзнай арганізацыі?

Арганізатары канцэрту лічаць, што краіна Беларусь мусіць быць беларускай. Зь беларускай музыкай, мовай, адукацыяй і нават тым жа Камітэтам. Арганізатары не займаюцца палітыкай і адраджаць нацыянальную культуру зьбіраюцца яе папулярызацыяй. І ў іх атрымліваецца. Колькі гадоў перапоўненыя залі Менску, дзе адбываюцца канцэрты айчынных рок-гуртоў. Вялізная хваля нацыянальнае аўдыё- ды відэапрадукцыі разыходзіцца па ўсёй краіне. Усяго й не пералічыш! І працэс гэты натуральны. Моладзь сьвядома абірае незалежнасьць.

А як улады "Рэспублікі Беларусь" рэагуюць на гэта? Пра канцэрт, што меўся адбыцца 9 сьнежня ў Магілёве ў межах праекту "Вольныя танцы", ніхто не захацеў нават чуць. Забаранілі. Нягледзячы на абсурднасьць такога рашэньня – прыехаць меўся "Палац".

Можна доўга разважаць над сытуацыяй, што склалася за апошнія гады ў краіне. Прызвычаіліся даўно да затрыманьняў, вялізных штрафаў ды сутак, пачалі забывацца, хто зь вядомых апазыцыйных палітыкаў і як даўно зьнік. На жаль. Калі ўсё гэта можна лічыць хоць і бруднай, але палітычнай барацьбой, дык перасьлед культурнікаў, забарону на распаўсюд ды папулярызацыю сучасных здабыткаў нацыянальнае культуры, карыстаньне роднай мовай можна і трэба азначыць як **этнацыд**. Які ажыцьцяўляецца самой "Рэспублікай Беларусь".

На сустрэчы з прызнанымі пісьменьнікамі зьяўляюцца супрацоўнікі Камітэту. "Гаранты бясьпекі беларускае дзяржавы" таксама ходзяць па школах ды "па-сяброўску" размаўляюць з настаўнікамі ды вучнямі, якія прысутнічаюць на сустрэчах зь пісьменьнікамі... Гэта факты. А колькі яшчэ зроблена ціха і непрыкметна?

Вось і становіцца страшна. Ад таго, што ўсё гэта ёсьць, што ўсё гэта праўда, што ўсё гэта адбываецца на тваіх вачох. Насамрэч.

Але такі страх кажа табе – немагчыма чакаць. Трэба рабіць, трэба адстойваць і змагацца за свае правы. За правы безь перашкодаў карыстацца дасягненьнямі свае культуры. За правы, гарантаваныя Канстытуцыяй і шматлікімі міжнароднымі пагадненьнямі.

**Андрусь Кавалёў, Магілёў**

**P.S.** Магілёўская гарадзкая арганізацыя Маладога Фронту распачынае акцыю зваротаў да ўладаў з пратэстам супраць забароны айчыннае культуры. Мы заклікаем усіх сяброў моладзевых грамадзкіх арганізацыяў, а таксама ўсіх неабыякавых даслаць ліст на імя намесьніка старшыні гарвыканкаму сп.Васільчанкі (Дом саветаў, вул.Першамайская, 63) з патрабаваньнямі не ўсчыняць перашкодаў для разьвіцьця нацыянальнае культуры. Прыблізны тэкст лісту можна атрымаць па адрасе: Магілёў, вул.Ленінская, 27-50.

## водгукі

* * *

З артыкуламі наконт локшыны ад Лукашэнкі і ўдзелу ў вулічных акцыях цалкам згодная. Большасьць незалежных СМІ разгубілася і паблякла. Больш за ўсё зьдзіўляе нейкая адстароненасьць пры аналізе сытуацыі ў Беларусі. Нібыта гэта ня іхнюю краіну тузаюць і прадаюць. Зьмірыліся з фактам, што зьмяніць Лукашэнку можа толькі стаўленік Масквы. Дык навошта тады ён такі патрэбны? Справа ж ня ў тым, каб конча скінуць цяперашняга, а ў захаваньні незалежнасьці краіны. У вас я некалі прачытала пра магчымасьць паўстаць перад дзікім выбарам: дэмакратыя *або* незалежнасьць. Ці не здаецца, што мы ўжо блізкія да гэтага? Спытаць бы, што думаюць наконт гэтага вядомыя людзі. Пэўна, цікавы расклад атрымаўся б.

Хачу яшчэ ўдакладніць вашу інфармацыю пра сьвяткаваньне гадавіны Слуцкага паўстаньня. Бралі там удзел розныя палітыкі, але ладзіла гэта ўсё ж Кансэрватыўна-Хрысьціянская Партыя БНФ, пра што ваш карэспандэнт не напісаў.

На гэтым разьвітваюся. З Калядамі і Новым годам усіх!

**Сьвятлана Пячкова, Бабруйск**

